

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 49 (13581)

4 —11 снежня 1992 года

Кошт 3 рублі.



"ПАЛАТКА ГАЛОСНАСЦІ". Як "асабістая справа" грамадзянкі Іскаравай адбіваецца на рабоце Вярхоўнага Савета.

6

"ЦАРЫЦА НА ДЗЕВЯЦЬ ДЗЁН". Працягваем расказваць пра славутых авантурыстак мінулага.

7

Хочаце пазнаёміцца з кнігай С.Хмары "Аб багох крывіцкіх сказы"? Чытайце старонку

8

"РОК,ДУБІНКА І ВЯСЁЛЫ НАСТРОЙ". 28-29 лістапада ў горадзе над Бугам прайшоў "Берасцейскі рок-кірмаш - 92".



14


27-28 лістапада на Беларусі ўпершыню адзначаліся 72-я ўгодкі Слуцкага ўзброенага паўстання. Фотарэпартаж пра гэтую падзею —на старонцы 5.

## КУЛЬТУРУ — У ВАЙСКОВЫЯ МАСЫ!

Адбыўся чарговы справаздачна-выбарны пленум Беларускага фонду культуры (БФК). Сярод абраных у новы склад праўлення БФК — падпалкоўнік Мікола Статкевіч, старшыня Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Яно і зразумела — сёння амаль ніводная больш-менш значная падзея ў культурна-асветніцкім жыцці Беларусі не праходзіць без удзелу БЗВ.

Святлана ЛАЗОУСКАЯ.



## ДЭМАКРАТЫ І ПАТРЫЁТЫ: КОЖНЫ ПРА СВАЁ

На гэтым тыдні ў Мінску адбылася падзея, якую нельга назваць звычайнай: 30 лістапада прайшло пасяджэнне Каардынацыйнай нарады дэмакратычных і патрыятычных сіл Беларусі.

У рабоце нарады прынялі ўдзел каля дваццаці палітычных, грамадскіх арганізацый і аб'яднанняў. Партыя Народнай згоды выступіла на нарадзе з ідэяй стварэння кааліцыйнага ўрада (але большасць партый прапанову не падтрымала). БСДГ, напрыклад, выказала сумненні наконт таго, што такі ўрад зможа накіраваць рэспубліку па шляху рэформ пры цяперашнім Вярхоўным Савеце. Таму АДПБ прапанавала дабівацца ўвядзення пасады прэзідэнта ў нашай рэспубліцы (але калі апошняя будзе не парламенцкай, а прэзідэнцкай).

Яшчэ адзін удзельнік нарады — БЗВ — да дыскусіі не далучыўся.

Франц ЛЯВІЦКІ.

## ДАРАЖЭЙ ЗА ГРОШЫ

24 лістапада дэпутатамі Мінскага гарсавета прынята рашэнне "Аб першачарговых мерах па арганізацыі школьнага харчавання". Рашэнне гэта ўступіла ў сілу з 1 снежня і прадугледжвае бясплатныя экспрэс-сняданкі коштам ад 10 да 20 рублёў.

Такі крок выкліканы тым, што школьныя сталовыя горада наведваюць усяго ад 5 да 10 працэнтаў дзяцей (што ў 4-8 разоў менш, чым раней). Школьнікі часта ядуць усухамятку, сядзяць на ўроках галодныя, бывае, страчваюць прытомнасць ад голаду. Усё гэта і паслужыла таму, што было прынята вышэйназванае рашэнне.

Для тых школьнікаў, хто адмовіцца ад бясплатных сняданкаў, грашовай кампенсацыі няма ніякай. Так што, хочаш не хочаш, а есці трэба.

Мяркуецца, што да канца навучальнага года на бясплатнае харчаванне будзе скарыстана каля паўмільярда рублёў. Грошы немалыя, але здароўе дзяцей — даражэй.

Франц ЛЯВІЦКІ.



## *Стоп-факт*





## "ІМПЭТ" ВІНШУЕ ДАНЧЫКА!

Мінскае акцыянернае таварыства "Імпэт" у гонар 35-годдзя Багдана Андрусышына (Данчыка) выпусціла насценны каляндар на 1993 год.

На рэпрадукцыі — партрэт Данчыка, выкананы мастаком Міколам Цудзікам. Выдадзены каляндар, які прадстаўляе і святочныя дні Рэспублікі Беларусь, па заказу Фан-клуба аматараў творчасці Данчыка. Наклад — 5000 асобнікаў.

Кастусь СМЕЯНОВІЧ.

## НЯМЕЦКІЯ П'ЕСЫ — ПА-БЕЛАРУСКУ

Упершыню ў СНД 8 снежня ў Мінску адбудзецца пастаноўка спектакля "Кантрабас" па рамане нямецкага празаіка і драматурга Патрыка Зюскінда "Парфумер". Вядомы мінскі рэжысёр Рыд Таліпаў працягвае працаваць у "псіхалагічных" жанрах, і мы маем магчымасць стаць гледачамі чарговай трагікамедыі. Гэта незвычайная гісторыя кахання мужчыны да свайго кантрабаса і маладой балерыны Сары. Дарэчы, прэм'ера будзе двайной — спектакль "Кантрабас" прадстаўляецца на беларускай мове.

А галоўныя ролі ў новай пастаноўцы тэатра студыі Р.Таліпава выконваюць зоркі беларускіх тэатраў Віктар Манаеў і Таццяна Яршова.

Жанна ПАЦЕЕНАК.

НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Кантрабас".



## *Лік на табло*

Тры нічые ў трох апошніх матчах розыгрышу Кубка МХЛ – даволі неблагі паказчык для мінскага "Дынама". Тым больш, што дзве з іх нашы хакеісты здабылі ў гасцях: у Саратаве з "Крышталём" – 2:2 і ў Кіеве з "Сокалам-Эскулапам" – 3:3. На крытым катку ў Мінску нашы не здолелі перамагчы ЦСКА – 1:1. Дарэчы, ва ўсіх трох паядынках дынамаўцы не беглі ад паражэння, а хутчэй упускалі перамогу. У апошнім паядынку з "Сокалам", напрыклад, на апошніх секундах асноўнага часу.

Вельмі ўдала (інакш не скажаш) працягваюць гуляць у адкрытым першынстве Расіі гродзенскія і наваполацкія хакеісты. "Нёман" двойчы перамог лідэра – каманду "Марс" (Цвер) – 8:1 і 6:3, а "Хімік" – "Іжорац" з Санкт-Пецярбурга – 6:2 і 9:4. Абедзве нашы каманды па страчаных ачках – першыя ў сваёй зоне.

* * *

Як мы і прадказалі, Барыс Гельфанд выйграў мемарыял Аляксандра Алехіна. Але разам з другім маладым гросмайстрам Вішванатанам Анандам з Індыі. У абодвух па 4,5 ачка з сямі магчымых. На паўачка адстаў Гата Камскі (ЗША).

* * *

Другую адборачную гульню чэмпіянату Еўропы правялі валейбалісткі зборнай Беларусі з камандай Эстоніі. Як і першую ў Таліне, нашы безапеляцыйна перамаглі ў трох партыях (15:9, 15:10, 15:8). Цяпер жаданую пуцёўку ў фінальны турнір трэба будзе заваяваць у адборачнай групе, склад якой вызначыць жэрабя.

* * *

Чарговую перамогу атрымалі ў чэмпіянаце Міжнароднай прафесійнай баскетбольнай лігі хлопцы з мінскага РТІ. На гэты раз – над вядомым "Спартакам" з Санкт-Пецярбурга. Лік сустрэчы – 87:76. Лепшы бамбардзір у складзе нашай каманды – зноў Валерый Дайнека. На яго рахунку 28 ачкоў – амаль трэцяя частка зробленых усёй камандай.

* * *

З другога па шостае снежня ў Палацы лёгкай атлетыкі (ва Уруччы) праходзяць гульні другога тура мужчынскай гандбольнай Балтыйскай лігі. Беларусь у ёй, калі памятаеце, прадстаўляюць два склады мінскага СКА. Прыходзьце на гандбол, вы яшчэ паспяваеце.

Яўген ПУЧКОЎ.

## Навіны культуры

### БЕЛАРУСЬ ПРАРУБАЕ АКНО Ў... ЛІТВУ

І наадварот. Літва таксама праяўляе цікавасць да нашай рэспублікі. Менавіта літоўскі бок прапанаваў заключыць пагадненне паміж Міністэрствам культуры і адукацыі Літоўскай Рэспублікі і Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь. З гэтай мэтай дэлегацыя нашай краіны, якую ўзначаліў першы намеснік міністра культуры РБ Уладзімір Гілеп, наведала ў лістападзе Вільнюс. У выніку перагавораў быў выпрацаваны і ўзгоднены тэкст пагаднення і канкрэтная праграма супрацоўніцтва паміж Літвой і Беларуссю ў галіне музейнай справы, бібліятэказнаўства, музыкі, тэатра, захавання культурнай спадчыны. Бакі дамовіліся стварыць сумесную беларуска-літоўскую камісію па культурнаму супрацоўніцтву. Афіцыйнае падпісанне дакумента адбудзецца ў бліжэйшы час у Мінску.

Майя ШЭНДРЫК.

## ПРАВІНЦЫЯЛЬНАЯ ХРОНІКА

### Гомель

* * *

Эканамічныя цяжкасці пагрозліва стукаюцца ў нашы дзверы. Нялёгка зараз гарадскім установам і прадпрыемствам. Але, нягледзячы на гэта, завод "Цэнтраліт" знайшоў рэзервы. У бягучым годзе ён набыў 55 кватэр для сваіх рабочых і служачых. Ужо закладваецца падмурак пад будаўніцтва новага дома. Калектыў запланаваў узвядзенне яшчэ аднаго шматпавярховага дома.

* * *

Новы час дыктуе новыя ўмовы. Таму і вырашыла адміністрацыя сярэдняй школы № 17 адкрыць сваю краму. Яна размясцілася ў школьным памяшканні, на першым паверсе. Тут праводзіцца продаж і прыём адзення. Сярод прапаноўваемых тавараў ёсць і асабістыя вырабы вучняў. І цэны не "кусаюцца": яны значна ніжэйшыя за рыначныя.

Дарэчы, прадаўцамі працуюць вучаніцы 7–9 класаў. 10 працэнтаў, якія паступаюць ад рэалізацыі тавараў, ідуць у фонд школы.

* * *

Цэнтральная дзіцячая бібліятэка Савецкага раёна налічвае 6 тысяч чытачоў. Кніжны фонд яе складае больш як 60 тысяч тамоў мастацкай літаратуры. Як паведаміла загадчыца аддзела абслугоўвання С.А.Міхалка, бібліятэкары актыўна прапагандуюць родную мову. Часта праводзяцца розныя мерапрыемствы. Але ўзніклі сур'ёзныя праблемы з беларускамоўнымі выданнямі. Многія школы сёлета перайшлі на беларускамоўнае навучанне. Не хапае патрэбнай літаратуры. Утварыўся своеасаблівы дэфіцыт. Пэўна, ёсць над чым паразважаць сёння гарадскім уладам і больш высокім установам.

Падрыхтавала Ганна АТРОШЧАНКА.



У нядзелю ва Уруччы, што пад Мінскам, у памяшканні Палаца лёгкай атлетыкі СКА ўпершыню ў Беларусі адбылося "Пэпі-шоу" — так назвалі арганізатары выставу шчанят усіх парод. Відавочна, святы сёння патрэбны не толькі людзям.

Старонку вядзе Франц ЛЯВІЦКІ, тэл. 32-13-04.

*З пошты аддзела*

# АЎТАРЫ БЫВАЮЦЬ РОЗНЫЯ

*Аўтары бываюць розныя. Як усе людзі ўвогуле. Ёсць сярод іх знаёмыя, так бы мовіць, "старыя", выпрабаваныя працяглым супрацоўніцтвам з рэдакцыяй, і ёсць новыя. Кожнае выданне абкружае сябе больш-менш пастаянным колам няштатных супрацоўнікаў: ад кволага пачаткоўца-драбязы да салідных, масцітых "глыб". Кожнае выданне мае за гонар шабыць артыкулы паважных няштатнікаў і такім чынам прадэманстраваць сваім чытачам уласную грамадскую вагу й уплывовасць. Аўтары бываюць розныя. Далікатныя і ня вельмі, шчырыя і наадварот, самаахвярна згодныя на любыя праўкі і з хваравітым стаўленнем да выкрэслівання з іхніх выпакутаваных опусаў нават коскі. Ратуй, Божа, ад графаманаў, метадычных у дасягненні сваёй мэты, якія выходзяць на супрацоўнікаў рэдакцыі рашуча, як санстанцыя на прусакоў, і праследуюць вас, быццам цень бацькі Гамлета. Аднак, што б там ні было, газета заўсёды жывілася і будзе жывіцца, акрамя матэрыялаў штатных карэспандэнтаў, допісамі няштатнікаў і сувяззю са сваімі чытачамі. І кожнае без выключэння выданне зацікаўлена ў прыросце ня толькі пагалоўя буйной рагатай жывёлы, але й чытацкай пошты. Так што СМІ фарміруюць грамадскую думку, а грамадская думка сур'ёзна ўплывае на СМІ. І, дарэчы, чацвёртая ўлада — самая чуйная з усіх відаў улад, бо горш-лепш, але ўсё-ткі падтрымлівае такую неабходную для любой улады зваротную сувязь з аб'ектам, над якім уладарыць.*

Ёсць аўтары надзвычай заклапочаныя тэрмінам атрымання ганарару і незалежныя ад матэрыяльных выгад — горда лунаючыя ў творчым палёце "арлы". Для апошніх, згодна з іхнімі словамі, "важна выказацца і быць пачутымі", а грошы... штосьці пятае або дзесятае па чарзе каштоўнасцей. Трапляюцца "няштатнікі" выпадковыя, што з ахайненькім дыпламацікам, у якім — стос аддрукаваных без капіркі "першых экземпляраў" (згодна з рэдакцыйнымі правіламі) аднаго і таго ж артыкула. Яны цярпліва шыбуюць з кабінета ў кабінет і, зноў-такі цярпліва, прапаноўваюць свае допісы. А яшчэ водзяцца ў прыродзе аўтары-прадпрымальнікі. Пасля катэгарычнай адмовы няўзяты артыкул можа вярнуцца да вас. Праз некалькі дзён з'явіцца калега з абяззбройваючым сваёй цнатлівасцю каментаром: "Вось, прынёс няштатнік, сказаў, што ты прасіла перадаць, бо вельмі чакаеш ягоны матэрыял". Вы асуджана стогнеце.

Шматпартыйнасць, разнастайнасць грамадскіх арганізацый раздражняе дагматычную думку. Няхай будзе іх шмат і розных. Ёсць такі выраз, у прыватнасці ў навуцы, "узровень апаніравання". Дык вось грамадскасць павінна забяспечыць афіцыйным уладам гэты сур'ёзны ўзровень апаніравання праз партыі, грамадскія арганізацыі, калі любое рашэнне вярхоў выклікае рэзананс ці дысананс у грамадскім асяродку.

Таму мы адразу прызнаём за ўсімі нашымі аўтарамі і чытачамі права мець самыя нечаканыя і экзатычныя погляды, калі гэта толькі не ўшчамляе правоў іншых людзей.

## БОГУ — БОГАВА...

"Паважаная рэдакцыя! Прачытаў у вашай газеце ад 17-23 жніўня нарыс Міхася Кошалева "Пра царкву – без фіміяму". Я – беларус, у КПСС аніколі не састаяў, праваслаўны вернік. Мяне здзіўляе, чаму аўтар лічыць каталіцкую царкву ўсяленскай, а праваслаўную – артадаксальнай? Чаму не наадварот?

У нас на Беларусі дзве асноўныя канфесіі (хрысціянскія) – праваслаўная і каталіцкая. Ніколі не чуў, каб каталіцкіх святароў называлі святымі айцамі Італьянскай каталіцкай царквы на Беларусі, а вось праваслаўных святароў называюць няйнакш як святарамі Рускай Праваслаўнай Царквы. Хіба ж аўтару невядома, што моц каталіцкай царквы ў ейнай еднасці? Дык навошта ж ён хоча падрываць еднасць праваслаўнай царквы?..

Выклікае сум і жаль параўнанне Праваслаўнай Царквы з ідэалагічнымі аддзеламі КПСС. Лічу, што ніякае адраджэнне немагчыма да таго часу, пакуль мы ўсе не станем з павагай адносіцца да Праваслаўнай Царквы, гэтак жа, як і да Каталіцкай.

Зміцер ВАШКЕВІЧ, г.Менск".

Шаноўны сп.Вашкевіч, мы прапанавалі Міхасю Кошалёву адказаць на ваш ліст на старонках "ЧЗ". На жаль, ён абмежаваўся вуснымі заўвагамі. Усё, чым можам дапамагчы ў вашай дыскусіі з Міхасём Кошалевым, — надрукаваць ліст і паспадзявацца на пісьмовы водгук аўтара артыкула "Пра царкву — без фіміяму". Дарэчы, гэты артыкул з'явіўся недзе вельмі блізка па часе да святкавання ўгодкаў праваслаўя на Беларусі і, па шчырасці, не гучаў рэзанансам з перадсвяточнымі шчыраваннямі. Але... відаць, менавіта таму, што Царква не ідзе ані ў якое параўнанне з ідэалагічнымі аддзеламі КПСС, тэлефон у рэдакцыі прамаўчаў.

## ДЗЕЛЯ "ПРАФІЛАКТЫКІ"?

"Не дапусцім канфрантацыі!" — азагалоўлены наступны ліст. Цудоўны, жыццесцвярджальны, урэшце, канструктыўны парыў аўтара, на жаль, праз некалькі радкоў знік. Дарэчы, мы ўдзячныя Мікалаю Пятровічу Галашаву, што ён з'яўляецца адным з чытачоў нашага штотыднёвіка. Шаноўны аўтар раіць зарганізаваць абмен думкамі паміж чытачамі. Гэткі "абмен" у большай ці меншай ступені ўласцівы "ЧЗ". Думкамі. Пра што? Пра народную згоду, як аб'яднальную ідэю на шляху вырашэння шмат якіх праблем.




І Мікалай Пятровіч пачынае з "найбольш актуальнай" тэмы — "недапушчальнасці нараджэння на нашай зямлі фашыстоўскага нацыяналізму". Дзеля прафілактыкі апошняга паважаны ветэран зайшоў, відаць, ня толькі ў "Чырвоную змену", "Добры вечар" у першай калонцы аператыўна адрэагаваў на допіс паважанага чалавека высновай "Ну дзе вы ўбачылі той фашыстоўскі нацыяналізм!".

"Каб не дапусціць у нашых шэрагах ваяўнічых рознагалосся̆ў, вельмі важная інфармацыя пра павучальныя факты сяброўства паміж канкрэтовымі людзьмі і народамі". Яны без лішніх слоў будуць пераконваць, што сяброўства магчымае". Вось такі план-заданне. Як прыклад выніку такога сяброўства прыводзіцца "гістарычна вялікая перамога ў Вялікай Айчыннай вайне нашага шматнацыянальнага народа". Але чаму прыклад стасункаў паміж нацыямі звязваецца толькі са знешняй навалай. Гэткіх прыкладаў для той жа Беларусі — гаць гаці пасярод любой эпохі, таксама й сёння.

"Станоўчага нямала і ў нашыя дні", — працягвае аўтар. Мы чакалі, што зараз ён распачне пералік тых самых станоўчых прыкладаў, але ход ягоных думак зусім іншы: "Двойчы Герой Савецкага Саюза, вядомы касманаўт Уладзімір Кавалёнак — беларус па нацыянальнасці, які жыве ў Маскве, з пачуццём удзячнасці гаворыць пра адсутнасць да яго якой бы там ні было дыскрымінацыі ў Расіі: "Я павінен сказаць дзякуй, што мяне па-сапраўднаму ацанілі там... Мне прапанавалі працу і прызначылі кіраўніком Ваенна-інжынернай акадэміі Расійскай Федэрацыі". Што ж, Уладзімір Кавалёнак працаўладкаваўся ў Расіі — няхай яму там добра жывецца. Але мы з вамі, Мікалай Пятровіч, засталіся тутака. І з'язджаць адсюль нам (ці не так?) анікуды ня хочацца. Касманаўт Кавалёнак з'ехаў, а ветэран Галашаў застаўся. І мы з вамі цудоўна разумеем: не кожнаму з нас у адзін момант дадуць кватэру, высокі аклад у іншай дзяржаве. Але не забывайцеся і на тое, што ў Беларусі багата знакамітых людзей самых розных нацыянальнасцей, якіх з пашанай прынялі б не толькі іхняя Бацькаўшчына, але й звышдзяржавы, дарэчы, за немалыя грошыкі. Але ж працуюць небаракі і жывуць тут, пад гэтым небам. Бо, відаць, нештачка такое бачаць вакол сябе і наперадзе, вераць, спадзяюцца. А вось тая частка ліста, якую мне папросту хочацца змясціць у газеце за ягоную шчырасць:

"Жыву ў Беларусі ўжо больш за 40 гадоў і ніколі не адчуваў ад беларусаў якога б там ні было нядобразычлівага стаўлення да сябе, рускага чалавека. Прыхільнікі ўціску прадстаўнікоў некарэннай нацыянальнасці забываюцца на тое, што сотні тысяч беларусаў жывуць у Расіі, ды й у іншых рэспубліках.

Людзі нарадзіліся ці прыжыліся на пэўнай тэрыторыі часцяком не па сваёй волі. Не мяняе становішча, калі самі людзі абіралі месца жыхарства. Тады ж ім аніхто не забараняў выезд і ўезд. Так склаўся іхні лёс. Зямлю для пражывання ніхто нікому не пазычаў на пэўны тэрмін. Яна дадзена нам Богам для раўнапраўнага вечнага карыстання".

P.S. Дарэчы, Мікалай Пятровіч, газета наша ніколі не вызначалася крайнімі поглядамі, за што ёй перападала і "справа" і "злева". Вы ж павінны гэта ведаць, як наш пастаянны чытач.

## ЧАЛАВЕК НА ЗЯМЛІ

"На зямлі жыве толькі адзін чалавек... Могуць запярэчыць, нічога падобнага, мы ўсе такія розныя і г.д. і да т.п. Што ж у нас рознае? Па-першае, характары, па-другое, думкі, эмоцыі, звычкі. Але гэта ўсё можна адкінуць! Душа — згустак энергіі, ва ўсіх аднолькавая!!! Адзін і той жа чалавек паўтараецца 5 млрд. з лішнім разоў. А калі так, дык атрымоўваецца, што я сам сабе гэта пішу і сам ад сябе чакаю адказу...

Нічога страшнага або незвычайнага ў гэтым няма.

Я, вы, і ўсе астатнія, хто жыў або жыве на гэтай Зямлі, — гэта адно і тое ж. Арыстоцель, Ньютан, Ленін, Гітлер, Мадонна, група "Слэйер", Ягор Лігачоў, Джордж Буш і Лайма Вайкуле — гэта ўсё адно і тое ж.

Што ж нам перашкаджае з гэтым пагадзіцца? Наш разумны эгаізм і ганарлівасць!!! Але ў экстрэмальнай сітуацыі або ў медытацыі мы ўсе падобныя!!! Нашаму 5-мільярднаму чалавеку іншы раз бывае сумна. Ён прыдумляе розныя рэлігіі, тэорыі і г.д. Не будзем кранацца першапрычыны. Неабходна зразумець хоць бы мінімум.

Кожны дзень мы размаўляем самі з сабой, ходзім на працу да саміх сябе, хлусім і хітрым самі з сабою, забіваем мільёны саміх сябе...

Але разумнеем з кожным днём! Усміхайцеся, людзі!!! Мікола БРАНЦАЎ".

**Алена АГІБАЛАВА,**
рэдактар аддзела
па пытаннях палітыкі.

*Весткі з парламента*

## КРОМВЕЛЬ, НАПАЛЕОН, ПІЛСУДСКІ...

Гэтыя імёны асацыіруюцца з моцнай асобай у дзяржаўнай палітыцы і вялізнай уладай, сканцэнтраванай у адных руках. Як часта мы скардзімся на адсутнасць на палітычным небасхіле зорак адпаведнай велічыні. Але... нявартa забывацца на тое, чым скончыліся жыццёвыя шляхі дзяржаўных мужоў – улюбёнцаў улады. Кромвель – смяротная кара, Напалеон... Нават ня хочацца працягваць. І з парламентам той жа Кромвель не цацкаўся, разагнаў. Піначӑт таксама вызначыўся – вывеў сваю краіну з крызісу. Моцнай улады зараз прагнуць многія, але схамянуўшыся, варта прыгадаць, чаго каштавала яна народам і правадырам.

На пасяджэнні Канстытуцыйнай камісіі Вярхоўнага Савета ад 30 лістапада прыгадваўся вопыт пабудовы і функцыяніравання такіх дзяржаў як Англія, Францыя, Польшча... Але хоць са свету па нітцы – голаму кашуля, аніколі не шкодзіць не толькі скарыстоўваць чужы вопыт, але й набываць уласны. Такім чынам, Канстытуцыйная камісія, зірнуўшы назад – у мінулае і наперад – у будучыню, акрэсліла наступныя асноўныя палажэнні праекта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь:

- дзяржава грунтуецца на прынцыпе раздзялення ўлад;
- вышэйшы орган дзяржаўнай улады – Вярхоўны Савет, дэпутаты якога працуюць на прафесійнай аснове;
- чатырохгадовы тэрмін паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета Рэспублікі;
- Беларусь – парламенцкая рэспубліка, у якой уведзены пост Прэзідэнта, які не з'яўляецца кіраўніком выканаўчай улады;
- Вярхоўны Савет назначае Старшыню ўрада, яго намеснікаў, міністраў замежных спраў, фінансаў, абароны і ўнутраных спраў;
- мясцовае самакіраванне ажыццяўляецца грамадзянамі праз мясцовыя прадстаўнічыя органы, мясцовыя рэферэндумы, сходы грамадзян і іншыя формы прамога ўдзелу насельніцтва ў грамадскіх справах у межах кампетэнцыі, што прадастаўлена ім законам;
- паўнамоцтвы органаў мясцовага самакіравання ў вызначэнні сваёй унутранай арганізацыі і стварэння выканаўчых органаў устанаўліваюцца законам;
- дзяржаўныя гарантыі ўсім грамадзянам роўных правоў для ажыццяўлення гаспадарчай і іншай дзейнасці, акрамя забароненай законам, а таксама стварэння аднолькавых умоў для развіцця ўсіх форм уласнасці;
- гарантаванне дзяржавай прадастаўлення маламаёмным асобам жылля ў карыстанне з дзяржаўнага жыллёвага фонду на льготных умовах; даступнасць бясплатнага медыцынскага абслугоўвання і атрымання бясплатнай адукацыі ў дзяржаўных установах.

З большымі ваганнямі прайшоў чацвёрты пункт. Беларусь была вызначана як парламенцкая рэспубліка з перавагай над прэзідэнцкай усяго ў тры галасы (і трое ўстрымаліся).Астатняя справа – за парламентам.



## Мы адкажам на ўсе вашы пытанні. Тэлефануйце: 32-13-04



## ЖАБРАКАМ ЗАКОН НЕ ПІСАНЫ



*"Ці існуе на Беларусі закон, які забараняе (ці наадварот) валацужніцтва? І як адносіцца да людзей, якія жабруюць на вуліцах?*

**А.КАВАЛЬКОЎ, г. Віцебск".**

Як паведаміў Мікалай Васільевіч Крэчка, начальнік упраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі Міністэрства ўнутраных спраў, да сённяшняга часу існуе артыкул 204 Крымінальнага кодэкса, які прадугледжвае пакаранне за валацужніцтва.

Што датычыць жабракоў, то іх далёка не заўсёды можна аднесці да валацуг (таму што ў іх можа быць пашпарт, дзе ўказаны хатні адрас, прапіска і г.д.).




## МЕТРО ТВАР НЕ МЯНЯЕ?



*"Час ідзе, мяняецца атрыбутыка, і толькі на станцыі "Плошча Незалежнасці" Мінскага метро стаіць стэла з сярпом-молатам наверсе. Ды і назвы станцый пара памяняць...*

**А.БЫКОЎСКІ, г.Мінск".**

З вашымі пытаннямі-патрабаваннямі мы звярнуліся да Уладзіміра Іванавіча МАЦЮНІНА, галоўнага інжынера Мінскага метрапалітэна. Ён паведаміў, што пры адкрыцці новай (трэцяй) лініі метро якраз на месцы вышэйпамянёнай стэлы будзе пераход на гэту лінію, і тады яе знясуць. Дарэчы, сам Уладзімір Іванавіч лічыць стэлу помнікам архітэктуры.

Што датычыць змены назваў станцый, то тут вам таксама прыйдзецца пацярпець. Як сказаў Уладзімір Іванавіч, перайменаванне толькі адной станцыі патрабуе пры сённяшніх цэнах каля 5 мільёнаў рублёў. А ў горада і без таго хапае праблем і не хапае сродкаў. Адзінае, што можам параіць, — старайцеся не звяртаць увагі на назвы.




## ЧЭКІ НАДАКУЧЫЛІ ЎСІМ



*"Нядаўна ў Доме гандлю "Кастрычніцкі" купляў плашч, які каштуе каля пяці тысяч рублёў. Прадаўцы сказалі мне, што за плашч неабходна расплачвацца або чэкам, або буйнымі купюрамі. У мяне былі 50-рублёвыя беларускія "мішкі", і толькі дзякуючы гэтаму мне плашч прадалі. Чым гэта ўсё выклікана?*

**С.БЕРАЗОЎСКІ, г.Мінск".**

Як паведаміла Святлана Сямёнаўна КУРЫЛЕНКАВА, галоўны бухгалтар Міністэрства гандлю Рэспублікі Беларусь, па прапанове Нацыянальнага банка рэспублікі Савет Міністраў зацвердзіў пастанову, згодна з якой за прамысловы тавар коштам звыш трох тысяч рублёў неабходна расплачвацца толькі чэкам (!). І ніякіх "мішак", "ласёў", "зуброў"... Толькі чэк. Так што тыя прадаўцы, якія прадалі вам плашчык, парушылі (у прамым сэнсе гэтага слова) гэтую пастанову.

Але і іх можна зразумець. Ім таксама нялёгка з рознымі чэкамі (а пакупніку тым больш). А таму Міністэрства гандлю звярнулася ў Нацыянальны банк Беларусі з прапановай, каб мяжа разліку банкнотамі за прамтавары была не тры тысячы, як зараз, а пятнаццаць. Нацыянальны банк пакуль што маўчыць.

## ЗБРОЯ — НЕ ЦАЦКІ



*"У Расіі грамадзянам можна набываць зброю. А ў нас?*

**К.ДУБАТОЎКА, г.Полацк".**

Тут мы павінны ўнесці адну папраўку. Сапраўды, зброю ў Расіі набываць можна. Але ж не ўсякую. У лістападзе Прэзідэнт Расіі Б.Ельцын падпісаў два ўказы: "Аб спецыяльных сродках самаабароны, забяспечаных рэчывамі слёзатачывага газу і раздражняючага дзеяння" і "Аб дазволе набыцца, захавання і выкарыстання гладкаствольнай паляўнічай зброі асобам, якія вядуць




сялянскую (фермерскую) гаспадарку". Цяпер расіяне з дазволу міліцыі могуць набыць газавыя пісталеты і рэвальверы (для набыцця аэразольных упаковак дазволу органаў МУС не патрабуецца) і гладкаствольную паляўнічую зброю.

У нас жа на Беларусі падобных указаў няма. І як паведамілі ў Міністэрстве ўнутраных спраў нашай рэспублікі, ніякіх крокаў у гэтым накірунку не робіцца.

## ПЕНСІЯНЕРЫ РЫНКУ НЕ ПАТРЭБНЫ?



*"Ці існуюць у Мінску крамы для нізкааплатных груп насельніцтва — пенсіянераў, студэнтаў і г. д.?*

**У.ВАЛУЕЎ, г.Мінск".**

Як паведамілі ў арганізацыйным аддзеле Мінгарвыканкама, ні крамаў, ні аддзелаў пры крамах для такіх людзей няма.

Пры рынку выжывуць толькі дужэйшыя?

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ "СМУТНАГА ЧАСУ"



*"Хацелася б даведацца, якія энцыклапедыі можна чакаць у бліжэйшы час?*

**А.ПЯСЕЦ, Слуцкі раён".**




Як паведаміў Іосіф Пятровіч ХАЎРАТОВІЧ, намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя П.Броўкі, у наступным годзе плануецца выпуск 28 выданняў, з іх 19 — энцыклапедычных даведнікаў. Гэта "Архітэктура Беларусі" і "Археалогія і нумізматыка Беларусі", шасцітомнік "Энцыклапедыя гісторыі Беларусі" і "Энцыклапедыя сельскага гаспадара", другое выданне "Чырвонай кнігі", "Блакітная кніга" (пра водныя аб'екты рэспублікі), "Фразеалагічны слоўнік" у двух тамах і шасцітомнік "Біябібліяграфічны слоўнік. Беларускія пісьменнікі" (першы том якога ўжо, дарэчы, выйшаў)... Ужо ў гэтым годзе выйдзе "Юрыдычны слоўнік".

## ШТО НЕЛЬГА ВЫВОЗІЦЬ. ЗАПОМНІ І ПЕРАДАЙ ДРУГОМУ!



*"Паведаміце, калі ласка, якія рэчы нельга вывозіць за мяжу?*

**А.ЮНЧЫК, г.Гродна".**



Згодна з Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь "Аб зацверджанні часовых правіл увозу грамадзянамі на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь і вывазу за межы гэтай тэрыторыі прадметаў, валюты і каштоўнасцей" ад 23 лістапада 1992 года, забаронена вывозіць наступныя прадметы: зброю ўсякага роду ваенных узораў, боепрыпасы да яе і воінскую амуніцыю; наркатычныя і псіхатропныя рэчывы, друкаваныя і аўдыявізуальныя матэрыялы, іншыя носьбіты інфармацыі, у якіх утрымліваюцца звесткі, што могуць нанесці ўрон палітычным, эканамічным інтарэсам Рэспублікі Беларусь, ахове здароўя і маралі грамадзян, ануляваныя каштоўныя паперы, творы мастацтва, прадметы старажытнасці і іншыя прадметы, якія маюць значную мастацкую, гістарычную, навуковую і культурную каштоўнасць, расліны і жывёлы, якія адносяцца да відаў, занесеных у Чырвоную кнігу рэспублікі; прадметы, вываз якіх забаронены ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь; машыны швейныя бытавыя; шафы і камеры халадзільныя бытавыя (халадзільнікі і маразільнікі), электрапрыборы бытавыя, машыны пральныя бытавыя; машыны вязальныя бытавыя, апаратура радыёэлектронная бытавая.

## ДА ШЛЮБУ — БЕЗ ПЯРСЦЁНКА



*"Куды падзелася золата з крам? Дзе можна набыць заручальныя пярсцёнкі?*

**Н.ВАРАБ'ЁЎ, г.Магілёў".**

Як паведамілі ў "Ювелірганддлі", суседнія краіны не хочуць пастаўляць Беларусі золата. Беларускі ўрад не дазваляе "Ювелірганддлю" аплачваць расійскае золата, бо Расія нам вельмі завінавацілася? Сваіх жа прадпрыемстваў, якія выраблялі б залатыя пярсцёнкі і завушніцы Беларусь не мае.

Таму "Ювелірганддаль" перавёў грошы ў Латвію, адкуль у бліжэйшы час чакаецца завоз золата (у тым ліку і заручальных пярсцёнкаў). Можа, гэта будзе ў снежні, а можа і пазней.

На пытанні адказвалі:
Сяргей ВІШНЕЎСКІ,
Франц ЛЯВІЦКІ,
Алесь ПАЛЫНСКІ.





# У КОЖНАГА – СВАЯ ПАМЯЦЬ

27—28 лістапада 1992 года на Беларусі ўпершыню адзначаліся 72-я ўгодкі слуцкага ўзброенага чыну. У канцы лістапада 1920 года 2 палкі БНР выступілі ў раёне Слуцка супраць Чырвонай Арміі. Гэта была першая спроба абараніць незалежнасць Беларусі ад бальшавіцкіх захопнікаў. Сілы былі няроўныя, і ў снежні 1920 года паўстанне было задушана. Толькі праз 72 гады дзякуючы намаганням беларускіх гісторыкаў, дэмакратычных плыняў у палітыцы адкрылася праўда пра падзеі, якія доўгі час былі белай плямай у гісторыі Беларусі.

28 лістапада 1992 года ў вёсцы Семежава Слуцкага раёна, дзе знаходзіўся штаб паўстання, адбыўся мітынг Памяці загінуўшых, былі ўстаноўлены і асвечаны крыж. У адной са слуцкіх цэркваў прайшла памінальная служба.

72 гады мінулі з часоў паўстання, і за гэты час камуністычная ідэалогія нямала паспела зрабіць. Амаль ніхто з мясцовых жыхароў нічога не ведаў пра тыя падзеі. Семежаўскія бабулькі ды дзядулькі ў час мітынгу разважалі паміж сабой пра высокія цэны, цяжкае жыццё, успаміналі добрым словам таварыша Сталіна. У кожнага — свая памяць, свая настальгія...

Алег МІНСКІ.

*Дарэчы*

22 лістапада ў беларускім нядзельным ліцэі, што працуе пры Магілёўскай філіі Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра (БГАКЦ), прайшоў урок, прысвечаны 72-й гадавіне Слуцкага паўстання.

Аб гэтай падзеі ў гісторыі Бацькаўшчыны навучэнцам і выкладчыкам ліцэя распавёў дырэктар музея гісторыі Магілёва Ігар Пушкін. Пасля адбыўся канцэрт вядомага беларускага барда з Гародні Віктара Шалкевіча.

Юрась ПІВУНОЎ.
Фота Сяргея БРУШКО
і Сяргея ПЛЫТКЕВІЧА.







## Актуальны каментар

### Апошняя бяда высакоснага года

Не паспеў Вярхоўны Савет зацвердзіць новы памер мінімальнага заробку, як ён катастрафічна састарэў. Цяпер за 2 тысячы рублёў можна набыць прыкладна 10 кілаграмаў каўбасы далёка не лепшых гатункаў... Ды што мы ўсё пра каўбасу ды пра каўбасу? Хіба яна – крытэрый каштоўнасцей чалавечага жыцця? Не толькі. Масла таксама. І мяса. І пельмені. І кватплата. І па тэлефоне часам трэба паразмаўляць – не пасылаць жа, напрыклад, па "хуткую дапамогу" коннага слугу? Тым больш, што і каня карміць трэба...

Панядзелак па ўсіх параметрах – цяжкі дзень. Асабліва калі ён звязаны з павышэннем цэнаў. Бог мой, колькі такіх панядзелкаў было ў нашым жыцці! А колькі яшчэ будзе... З 30 лістапада ў Рэспубліцы Беларусь у 2 разы павысіліся цэны на масла і мяса. Кілаграм першага мы зможам набыць за 240 рублёў, свініну – за 160, ялавічыну – за 110. Прычым гэтыя цэны далёка не "потолок". Будзе горш. Паводле звестак афіцыйных крыніц, чарговы "здзек з народа" (менавіта так абсалютная большасць нашых суайчыннікаў вызначае дадзенае мерапрыемства) выкліканы падаражаннем энерганосьбітаў (у параўнанні з мінулым годам цэны ўзняліся прыкладна ў 120 разоў), а таксама павышэннем закупачных цэнаў на прадукты жывёлагадоўлі. Акрам таго Казахстан павялічыў цэны на збожжа і камбікармы... Пакуль што фіксаваныя цэны захоўваюцца толькі на хлеб, малочную прадукцыю. Але ж, паводле нашага сумнага вопыту, усё яшчэ наперадзе, і недалёкі той час, калі нейкая бабулька страціць прытомнасць не перад камерцыйным кіёскам, а на ганку самай звычайнай булачнай. Дык ці трэба усё звальваць на Казахстан?

Што ж сабе думаюць нашы шаноўныя заканадаўцы, калі прымаюць лічбу мінімальнага заробку не ў адпаведнасці з днём сённяшнім, а ў разліку на стабілізацыю цэн? Хіба нашы кіраўнікі настолькі страцілі прафесійныя якасці, што не могуць прадугледзець чарговы скачок цэн? Хутчэй наадварот – дзіркі ў бюджэце яны імкнуцца заткнуць не шляхам аператыўнай балансіроўкі цэнаў, падаткаў і заробку, а самым лёгкім шляхам – за кошт асноўнай масы спажыўцоў, за наш з вамі кошт. І што цікава: народ успрымае чарговы ўдар па сваіх жыццёвых інтарэсах, быццам тая карова, што паслухмяна ідзе на мясакамбінат. Вядома, мітынгі і дэманстрацыі ў наш час – не выйсце. Але як інакш паўплываць на тых шарлатанаў ад палітыкі і эканомікі, якія не бачаць далей уласнага носа і дзейнічаюць толькі ў разліку на "памяркоўнасць і талерантнасць беларускага народа"? Дазвольце зрабіць прагноз: цяперашнюю зіму не перажывуць многія з пенсіянераў, інвалідаў, а колькасць жабракоў у падземных пераходах значна вырасце. Хутчэй бы скончыўся гэты вісакосны год...

Алесь ПАЛЫНСКІ.

## СКРЫЖАВАННЕ

# "ПАЛАТКА ГАЛОСНАСЦІ"

### Як "асабістая справа" грамадзянкі Іскаравай адбіваецца на рабоце Вярхоўнага Савета

З кожным днём усё больш адчуваецца надыход зімы, але, нягледзячы на мароз, гэта палатка ў скверы насупраць будынка Вярхоўнага Савета Беларусі па-ранейшаму прыцягвае ўвагу прахожых. І няёмка неяк становіцца толькі ад усведамлення таго, што тут, у гэтай палатцы, жывуць людзі...

8 кастрычніка 1992 года Людміла Фёдараўна Іскарава з пятнаццацігадовым сынам Сашам паставілі ў скверы палатку, дзе і жывуць ужо амаль 2 месяцы. Л.Ф.Іскарава ж аб'явіла галадоўку і абвінаваціла ў несправядлівых адносінах да яе праваахоўныя органы, суд, Мінскі гарадскі і Савецкі раённы выканаўчыя камітэты Саветаў народных дэпутатаў.

Як жа гэтая жанчына здолела нажыць сабе адразу столькі ворагаў?

Пачалося ўсё яшчэ ў 1980 годзе, калі рашэннем нарсуда Савецкага раёна г.Мінска паміж Л.Ф.Іскаравай і яе былым мужам В.А.Харкевічам быў раздзелены пай у ЖБК. Пражыванне былых мужа і жонкі ў адной кватэры стала немагчымым, таму па просьбе В.А.Харкевіча яму была прадастаўлена аднапакаёвая кватэра ў гэтым жа доме. А ордэр на пакой, з якога ён з'ехаў, атрымаў гр-н Рудэнка. Відаць, не змагла ўжыцца Людміла Фёдараўна і з гэтым пастаяльцам, таму хутка пасля яго ўсялення Іскарава з'ехала з кватэры, пакінуўшы, праўда, у сваіх пакоях наймальнікаў Зялко.

Усе гэтыя звесткі захоўваюцца ў спецыяльнай, даволі ўнушальнай папцы ў сакратарыяце Вярхоўнага Савета. Тут мноства скаргаў у вышэйшы заканадаўчы орган, Пракуратуру рэспублікі і іншыя інстанцыі і сотні старонак з даведкамі аб разглядзе гэтых скаргаў.

Шмат чаго расказала Людміла Фёдараўна і пры асабістай сустрэчы. Паводле яе слоў у 1986 годзе незаконна была ўзламана яе кааператыўная кватэра судовым выканаўцам Савецкага раёна г.Мінска Краўцовым. Пасля гэтага выпадку Іскарава ў кватэры не пражывала, патрабавала ад пракурора састаўлення акта аб узломе.

— І нікога не цікавіць, што трэба як мага хутчэй скласці камісію, каб усе бачылі, што было ўчынена, куды знікла маёмасць. Як я магу адна даказаць, што там, у кватэры? Можа там бомба, можа наркотыкі, можа труп? Больш таго, юрысты гавораць, што калі я самавольна ўзламаю замок, тым самым учыню процiпраўныя дзеянні,— скардзіцца Людміла Фёдараўна.

Заўважу, што і сапраўды, кватэра Іскаравай па вуліцы Куйбышава была ўзламана судовым выканаўцам Краўцовым, але... калі той выконваў рашэнне суда Савецкага раёна г.Мінска.

Вось выпіска з дакумента: "Судовым выканаўцам народнага суда Савецкага раёна г.Мінска А.Краўцовым у прысутнасці панятых Бондара і Каробчыца, участковага інспектара Савецкага РАУС г.Мінска Пехава былі ўскрыты дзверы ў кватэры і ў адным з пакояў размясцілі маёмасць Л.Ф.Іскаравай, якая да гэтага захоўвалася больш чым год у ЖЭС-5". А сюды маёмасць Іскаравай была перавезена яшчэ ў снежні 1984 года з ранейшай яе кватэры па вул.Мірашнічэнкі, бо, пераехаўшы на новую кватэру, свае рэчы адтуль добраахвотна Іскарава перавезці адмовілася.



У сувязі з тым, што яна займала жылыя памяшканні ў абедзвюх кватэрах, народны суд зусім на законных падставах задаволіў іск ЖБК-375 аб прымусовым перасяленні Іскаравай у кватэру па вул.Куйбышава.

Між тым Людміла Фёдараўна сама 1.03.84 г. выдала пісьмовае абавязацельства вызваліць займаемую ёю плошчу на працягу 15 дзён з моманту атрымання ордэра на кватэру па вул.Куйбышава. Дарэчы, не адзін раз ствараліся і камісіі (нават з народных дэпутатаў) для праверкі наяўнасці ўсіх рэчаў Іскаравай па вопісу. Але ні адной з гэтых камісій жанчына не давярала.

Вельмі цяжка здагадацца, што кіруе дзеяннямі гэтай жанчыны. Падобна на тое, што пісанне скаргаў стала за гэтыя гады ўжо яе асноўнай прафесіяй. Асабліва пасля таго, як 23 верасня Іскараву звольнілі з работы на заводзе вылічальнай тэхнікі па скарачэнню штатаў.

Канешне, недасканаласць сістэмы разгляду скаргаў, непрабівальны бюракратызм нашых чыноўнікаў вядомыя ва ўсім свеце. Але той, хто скардзіцца, потым не з'яўляецца па выкліках на разгляд сваёй жа скаргі, а замест гэтага піша новую, вінаваціць павінен толькі сябе.

Падобна на тое, што і ўладу маючыя, ды і сама Іскарава пачынаюць разумець, што ўся гэтая цяганіна ператварылася ў марнаванне часу. Не стане ж Старшыня ВС асабіста займацца засяленнем у кватэру Іскаравай, чаго, дарэчы, як можна зразумець з яе слоў, патрабуе жанчына.

Выпадак з Іскаравай не адзінкавы: толькі за 9 месяцаў бягучага года ў парламент паступіла 36,5 тысячы вусных і пісьмовых заяў ад грамадзян. Пэўная частка такіх праўдашукальнікаў — такія ж суцяжнікі, што забыліся на работу, сям'ю і, апантаныя ідэяй барацьбы з усімі і ўся, дамагаюцца вырашэння сваіх дробязных канфліктаў абавязкова на самым вышэйшым узроўні, тым самым замінаючы рабоце дзяржаўных устаноў, парламента, перашкаджаючы гэтым органам займацца сваёй асноўнай дзейнасцю. Цяжка зразумець гэтых людзей, якія часам калечаць не толькі ўласнае жыццё, але і лёсы сваіх сем'яў, дзяцей...

Вось і ў нашым выпадку сын Іскаравай, Саша з 1988 года не вучыцца ў школе. Маці заявіла, што савецкай школе яна не давярае і будзе наймаць рэпетытараў і працягваць навучанне сына. Хаця ў апошняй гутарцы з карэспандэнтам яна скардзіцца ўжо на тое, што яе сына "адлучылі" ад заняткаў да таго часу, пакуль яна не заселіцца ў кватэру. Між тым, прадстаўнікі ўстаноў адукацыі розных узроўняў неаднаразова спрабавалі знайсці агульную мову з жанчынай, аб чым сведчыць ліст Міністэрства народнай асветы, які запрашае Людмілу Фёдараўну пазваніць па тэлефоне 27-39-01 да 14 студзеня 1991 года і паведаміць нумар школы, у якую яна хацела б уладкаваць сына. Між тым, Саша да гэтага часу нідзе не вучыцца і практычна адрэзаны ад знешняга свету. Якім будзе яго далейшы лёс?..

Сяргей ВІШНЕЎСКІ

Пасляслоўе загадчыка аддзела пісем і прыёму грамадзян Сакратарыята Вярхоўнага Савета РБ А.В.Красуцкага:

– Грамадзяне, што звяртаюцца ў вышэйшы дзяржаўны орган улады, – гэта, як правіла, людзі, якія не жадаюць мірыцца з несправядлівасцю, коснасцю чыноўнікаў на месцах. Пры гэтым яны абараняюць грамадскія інтарэсы і свае асабістыя правы. Але, трэба адзначыць, што ёсць яшчэ шмат людзей, якіх дробязныя, нязначныя канфлікты зацягваюць у папяровы вір, вымушаюць іх, захопленых "ідэяй барацьбы за справядлівасць", забывацца на сваю сям'ю і працу.

Прававому і духоўнаму нігілізму садзейнічае недасканаласць заканадаўства ў адносінах да парадку разгляду зваротаў грамадзян. Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 12.04.68 у рэдакцыі ад 4.03.80 "Аб парадку разгляду прапаноў, заяў і скаргаў грамадзян" безнадзейна ўстарэў.

Зразумела, што зараз неабходна распрацоўка і прыняцце новага закона, які б рэгуляваў парадак разгляду зваротаў грамадзян. Трэба, каб у гэтым законе была прадугледжана адказнасць як службовых асоб, што дапускаюць папяровую валакіту, так і саміх грамадзян, якія падаюць у вышэйшыя органы ўлады скаргі, дзе неабгрунтавана абвінавачваюцца ўладаносцы ці дзяржаўныя ўстановы.

Пры распрацоўцы сістэмы разгляду скаргаў і заяў вельмі няблага было б улічваць станоўчы вопыт у гэтай галіне замежных дзяржаў. У Польшчы, па прыкладу Скандынаўскіх краін, уведзена спецыяльная пасада – інстытут амбудсмена, якую займае нейтральная асоба, што займаецца разглядам канфліктаў, дзе мае месца парушэнне грамадзянскіх правоў і свабод з боку дзяржаўных органаў і ўстаноў. У сваіх дзеяннях гэтая асоба падпарадкоўваецца толькі Сейму, перад якім абавязана штогод прадстаўляць справаздачу.

Амбудсмен мае права патрабаваць узбуджэння крымінальнай справы ці прымянення адміністрацыйных санкцый супраць крыўдзіцеляў. З мноства спраў ён выбірае толькі тыя, што, на яго думку, больш важныя. Ён таксама можа не прымаць па некаторых скаргах аніякіх мер. Амбудсмен мае права апратэставаць любое рашэнне суда, нават калі яно ўжо ўступіла ў дзеянне.

Шмат чаго карыснага можна ўзяць і з законапраекта "Аб зваротах грамадзян", які не паспелі прыняць дэпутаты ВС СССР. Там, у прыватнасці, прадугледжвалася аплата скаргі дзяржаўнай пошлінай; выплата дзяржаўнай пошліны і заробку за страчаны час у выпадку, калі суд прызнае скаргу абгрунтаванай, а таксама адказнасць за паклёп і знявагу. Згодна з законапраектам, той, хто падае скаргу, папярэджваецца, што ён павінен будзе кампенсаваць усе страты па праверцы яго зваротаў, калі ў скарзе ёсць заведама ілжывыя звесткі.

Зараз падрыхтоўка адпаведнага нарматыўнага акта ўключана ў план законапраектных работ Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Вельмі хацелася б, канешне, каб народныя выбраннікі ўлічылі прыведзеныя вышэй прапановы, пры прыняцці новага закона. Гэта, бузумоўна, дапамагло б больш хуткаму вырашэнню працяглых канфліктаў, паставіла б заслону суцяжніцтву.



*Родны край*

# С Н Е Ж А Н Ь

***Вось і зіма...***
***І снежны ўзвей плыве над белаю зямлёю.***

***Нямала вершаў прысвяцілі паэты гэтай цудоўнай пары года. І ёсць у ёй свае прыцягальныя рысы. Уздоўж платоў мяцеліцы намялі гурбы, суцэльны белы дыван пакрыў лугі і палі, яліны і сосны стаяць у лесе пад загадкавымі белымі шапкамі. Змоўклі птушкі, схаваліся звяры, і толькі ланцужкі слядоў сведчаць аб тым, што жыццё працягваецца.***



## 2. Серада.

90 гадоў з дня нараджэння Анатоля Вольнага (сапр. Ажгірэй Анатоль Іўсцінавіч) (1902—1937), беларускага пісьменніка, паэта і кінадраматурга.

## 4. Пятніца.

80 гадоў з дня нараджэння (1912) А.С.Русецкага (сапр.Бурдзялёў), беларускага паэта.

УВОДЗІНЫ, ВЕДЗЯННЕ (УВЯДЗЕННЕ Ў ХРАМ БОЖАЙ МАЦІ).

У гэты дзень трохгадовая дзева Марыя была ўведзена ў Святая Святых Ерусалімскага храма і тым самым узвялічана Богам у знак таго, што яна стане Маці Ісуса Хрыста.

Назву афіцыйнага царкоўнага свята народ тлумачыў па-свойму: "Бог прыводзіць зіму на зямлю". Як зіма павядзе сябе ў гэты дзень, такая яна, у асноўным, уся будзе.

## 8. Аўторак.

70 гадоў з дня выхаду (1922) першага нумара газеты рэвалюцыйна-дэмакратычнага і нацыянальна-вызваленчага кірунку "Наша будучыня". Выходзіла ў Вільні да 14.02.1923 г.

## 19. Субота.

МІКОЛА.

Свяціцель Мікалай — епіскап з малаазійскага горада Міры Лікійскія (IV ст.). "Мікалай-цудатворца"— апякун пакрыўджаных і пакутнікаў, а таксама маракоў, падарожнікаў.

Адзін з самых шанаваных святых ва ўсходніх славян, у тым ліку і беларусаў. Мікола-зімовы. Менавіта ён выступае пачынальнікам сапраўднай зімы: "Да Міколы няма зімы ніколі". І Мікола-зімовы, і Мікола-летні (22 мая) як бы адкрывалі кожны свой сезон: "Мікола — сапраўдная зіма, Мікола — сапраўднае лета". Ды зноў жа надвор'е, якое год на год не прыпадала, уносіла папраўкі ў народныя назіранні, і часам, ашукаўшыся, людзі казалі: "Ніводнаму Міколе не вер ніколі". Затрымка зімы на Міколу была знакам, што маразы прыйдуць няскора і наогул уся зіма будзе бяспутная. Мікола-зімовы быў далучаны земляробам да будзённых і гаспадарчых разлікаў і прагнозаў: "Беражы сена ад Міколы і да Міколы і не бойся зімы ніколі",— гарантавала прыказка, адзначыўшы прыблізна, колькі трэба трымаць у хляве жывёлу. Стан надвор'я ў гэты дзень арыентаваў селяніна на пачатак веснавой сяўбы, на плён у полі: "Калі іней будзе раней чым 19 снежня — позні", "Іней, які пакрывае дрэвы на Міколу, прадказвае добры ўраджай ільну".

Уладзімір ВАСІЛЕВІЧ.

## 21. Панядзелак.

155 гадоў назад (1837) паявіўся першы датаваны спіс пародыйна-сатырычнай паэмы "Энеіда навыварат".

## 22. Аўторак.

70 гадоў з дня нараджэння (1922) А.С.Васілевіч, беларускай пісьменніцы.

## 26. Субота.

70 гадоў назад (снежань 1922 г.) у Мінску выйшаў першы нумар часопіса "Полымя".

## 30. Серада.

70 гадоў назад (1922) І Усесаюзны з'езд Саветаў прыняў Дэкларацыю і дагавор аб утварэнні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

## 31. Чацвер.

З надыходзячым Новым годам!

*Легенды*

## ЯК НАРАДЗІЛІСЯ НЁМАН І ЛОША

Расказваюць так. З-пад вярбы выбілася крынічка. Вада ў ёй была халодная, як лёд, а чыстая, як раса. Вада тая ўсё прыбывала, большала, аж пакуль не пабегла па дзвюх ручаінах. Так вось нарадзіліся рэкі Нёман і Лоша. Нёман быў шчыры і крэпкі хлапец, а Лоша – ціхая, лянівая і хітраватая дзяўчына. Яшчэ больш падужэўшы, Нёман аднойчы сказаў Лошы:

– Раздолля трэба мне, волі захацелася. Буду як мага прабівацца да мора.

Нічога не адказала на гэта Лоша, толькі сама сабе надумалася навыперадкі бегчы з Нёманам і першай выскачыць да мора. Назаўтра, яшчэ не развіднела, яна ціхенька ўстала і бегма пабегла па нізінах ды па далінах да мора. Прачнуўся Нёман, угледзеўся, што Лошы няма, ну й кінуўся наўздагон, не разбіраючы дарогі, напрасткі.

З таго часу ён так і ляціць, паспяшае да мора, магутны і шырокі, а Лоша плыве ціха, хаваючыся ды туляючыся па кустах і нізінах.

Лёгкія сняжынкі ў цішы
Долу апускаюцца нясмела...
Светла ў полі, светла на душы...
Лёгкія сняжынкі ў цішы...
Спіць сасна ў бахматым шалашы,
А навокал так бялютка-бела...
Лёгкія сняжынкі ў цішы
Долу апускаюцца нясмела.

Данута
БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА.



*Наш анонс*

# "АНІ ЗНАКАЎ ТАЯМНІЧЫХ, АНІ СІМВАЛАЎ МАГІЧНЫХ"

Апошнім часам назіраецца тэндэнцыя да спрошчвання праблемы нацыянальнага Адраджэння. Выдзяляюць у асноўным моўнае пытанне, маўляў, загаворым на мове нашых дзядоў.

Сёння новая генерацыя беларусаў вымушана праз галаву сваіх бацькоў звяртацца да каранёў. Большасць дома размаўляе па-расейску альбо чуе ў адказ расейскую мову. На шчырае дзіцячае "Доблай ланіцы" хутчэй за ўсё адкажуць "Здрасце". Паміж собку яшчэ можна пагаварыць "па-дзеравенску", а з дзіцем – толькі па-культурнаму, каб не ламаць яму лёсу... У школе не вучаць беларускай мове, а толькі ў лепшым выпадку – беларускаму правапісу. У нешматлікіх беларускіх выданнях (раёнках) можна вычытаць:"Рабяты могуль глядзець любімыя перадачы..." альбо "...А як жа статкі папаўняюць паўнацэнным маладняком? Не па ўсіх фермах арганізавана своечасовае пакрыццё кароў і цёлак..."

Дык дзе ж чэрпаць павагу да родных каранёў, гісторыі, мовы, скуль народзіцца патрыятызм, усведамленне сваёй еднасці з Беларуссю? "Мляка беспрасветная" навісла над грамадствам. Адзіным выйсцем бачыцца вяртанне да народных песень, казак, міфаў. Бо нічога не ведаем мы пра сваю мінуўшчыну. Гісторыю нашу больш актыўныя суседзі паміж собку падзялілі, мову па дарозе ў светлую будучыню згубілі мы. А крыніца, з якой заўсёды ткалася свядомасць нацыі –"Легенды і казкі былых пакаленняў", натхняе зараз толькі навукоўцаў. На жаль, нават студэнту немагчыма пакарыстаць першакрыніцы, бо тая ж беларуская міфалогія практычна не распрацавана. Дык што ж, у нас нічога не было, "ані знакаў таямнічых, ані сімвалаў магічных?"

Было, ёсць. Нашы птушкі пакуль што, дзякуй богу, лятаюць У ВЫРАЙ, а не НА ПОЎДЗЕНЬ, і КОН разам з РАДАЙ кіруе лёсам чалавека, бо так наканавана...

Кніга, з якой вы зможаце пазнаёміцца ў наступных выпусках "Роднага слова", адна з нешматлікіх спроб сістэматызаваць беларускую міфалогію. Аўтар яе, Сяргей Хмара (сапр.Сяргей Сымонавіч Сіняк), вядомы актыўнаму аматару эміграцкай літаратуры, жыве ў Таронта, выдае газету "Беларускі голас". Калі вас зацікавіць больш падрабязная яго біяграфія, пагартайце "ЛіМ": артыкул Лявона Юрэвіча "Нам палаць, а не цьміць" (4.09. 1992г.), ліст у рэдакцыю Уладзіміра Калесніка "Такія элементарныя пахібкі" (2.10.1992 г.).

С. ХМАРА

АБ БАГОХ КРЫВІЦКІХ СКАЗЫ

(Беларуская міталёгія)

Выданьне другое

Літаратурная Сустань «Бацькаў Усходнім»

Таронта, Канада 1986

Нельга сказаць, што "Аб багох крывіцкіх сказы"– кніга бясспрэчная. Аўтар тут выкарыстаў шэраг біблейскіх, антычных матываў, нават можна сустрэць паралелі з індыйскай міфалогіяй, што, вядома, уводзіць убок ад сапраўднай беларускай міфалогіі. Аднак больш важным выглядае сам факт паяўлення падобнай працы. Нарэшце і ў нас!

Паўлюк БЫКОЎСКІ.

*Ад рэдакцыі:*

Такім чынам,

АБ БАГОХ
КРЫВІЦКІХ СКАЗЫ
(Беларуская міталёгія)

чытайце ў наступным выпуску "Роднага слова", у студзені 1993 г. Аўтарскую арфаграфію захоўваем.

# БАГДАНОВІЧ — ПЕРАКЛАДЧЫК

**Здаецца, шчэ нядаўна адзначалі мы стогадовы Багдановічаў юбілей. Але час ідзе, хваля ўрачыстасцей адхлынула і... светлы вобраз Максіма-кніжніка зноўку як бы схаваўся ў цень. Нават пра класікаў згадваем толькі пад час іхніх юбілеяў. Але не будзем забываць, што 9 снежня – дзень нараджэння паэта. Ты сёння з намі, Максіме!**

Пачынаючы гаворку пра Багдановіча-перакладчыка, заўсёды думаеш, да якой жа адсталасці і бескультур'я дайшлі мы дзякуючы дыктатуры шарыкавых і швондзераў. Максім яшчэ юнаком надрукаваў свае першыя пераклады. Ён вучыўся ў звычайнай гімназіі, як усе, вывучаў латынь, грэцкую і дзве новыя — нямецкую і французскую мовы. Чытаў еўрапейскіх класікаў у арыгінале. Але ж наперадзе быў яшчэ ліцэй. Зараз жа студэнты нават у інстытуце не ведаюць ніводнай замежнай мовы.

Перакладчыцкая спадчына Багдановіча вельмі характэрная і сведчыць аб Максіме, як аб чалавеку стойкім у сваіх захапленнях, працавітым і мэтанакіраваным. Першыя пераклады Гейнэ з'явіліся ў 1909 годзе ў "Нашай Ніве", затым яго ўвагу прыцягнуў Верлен. Нарэшце, пад час вучобы ў ліцэі ў Яраслаўлі Максім усё больш увагі ўдзяляе славянскай прыгожай пісьменнасці. Яго пераклады набываюць аптымальную гармонію. Ён перакладае песні— рускую, украінскую, сербскую. Робіць з іх цыкл і дадае японскую, іспанскую, персідскую і скандынаўскую песні з адмысловым строем.

Максім заўсёды пачуваўся беларусам. Нават калі жылі ў Расіі, душою ён быў на Радзіме. Але рускай мовай валодаў выдатна і кажуць мог бы быць не горшым рускамоўным паэтам. Быў яму блізкі Лермантаў, і не дзіўна, што абодва яны пачалі як перакладчыкі з выдатнага лірыка Гейнэ, звярталіся да Шылера.

Першыя пераклады Багдановіча вызначае імкненне данесці да чытача свет аўтара без змен, яны дакладныя і дабротныя. Гэтыя маладыя практыкаванні робяць больш зразумелай тую ўпартасць і бязлітаснасць да сябе, з якой наш Максім пазней "каваў з сталі і гартаваў" свой гібкі верш. Удалыя, на мой погляд, наступныя пераклады васемнаццацігадовага Максіма: з "Кнігі песень", з цыкла "Лірычнае інтэрмэцца".

*Дзяцюк шчыра любіць дзяўчыну,*
*Ей іншы да сэрца прыпаў,*
*А іншы той іншую любіць*
*І мужам яе хутка стаў.*
*За першага, хто ні спаткаўся,*
*Дзяўчына са злосці ідзе.*
*Дзяцюк жа марнее і губіць*
*Жыццё маладое ў нудзе.*
*Старая ўжо гэта гістор'я,*
*Хоць новаю будзе ўсягды.*
*Як з ім яна здарыцца — пэўне*
*Пакрыша ім сэрца тады.*

Пераклад Шылера:

*Хочаш сябе ты пазнаць —*
*Паглядзі на людзей, на іх справы;*
*Хочаш людзей зразумець —*
*У сэрца сваё заглянi.*

І яшчэ адзін пераклад — Гейнэ, з цыкла "Раманцэра":

**АЗРА**

*Кожны вечар ля крыніцы,*
*Дзе вада дзюрчыць, плюскоча,*
*Упярод і ўзад хадзіла*
*Доч прыгожая султана.*
*Кожны вечар ля крыніцы,*
*Дзе вада дзюрчыць, плюскоча,*
*Малады стаяў нявольнік*
*І марнеў штодня ўсё болей.*
*Раз яна ў яго паціху,*
*Затрымаўшыся, спытала:*
*"Як завуць цябе, дзе край твой?"*
*Адказаў нявольнік: "Клічуць*
*Магаметам з Іемена,*
*А народ мой — тыя Азры,*
*Што канаюць ад кахання".*

Напрыканцы згадаю той час жыцця Максіма, пра які ўспамінала Зоська Верас. Багдановіч у Менску, працуе ў статыстычным упраўленні, а сталуецца і вечарае ў "Беларускай хатцы", на Захар'еўскай вуліцы, 18, з сябрамі і знаёмымі. Гавораць пра канец вайны, пра мажлівасць адкрыцця беларускіх школак і нястачу лемантароў для гэтых школ. Максім меў падбіраць вершы для лемантара, рабіць пераклады і ўкладаць чытанку да гэтага лемантара. Напэўна, гэта былі б добрыя пераклады...

Яўген БЯЛАСІН.

# БЕЛАРУСКІЯ ЖАРТЫ

— Чаму гэта ты, кум, як п'еш гарэлку, заплюшчваеш вочы?

— Бачыш, куме, я прысягнуў жонцы, што на гарэлку ніколі глядзець не буду.

* * *

— А паненцы хто больш даспадобы: Янка Купала ці Якуб Колас?

— А мне што да іх за наўда! Я маю свайго кавалера, пісара ў воласці.

* * *

— Татачка! Пан Паўла просіць мае рукі. Што яму сказаць?

— Скажы яму, што ў тваю руку я нічога не ўлажу.

* * *

— Ці праўда, што жанчыны жывуць даўжэй за мужчын?

— Добра не ведаю, можа, не ўсе, але што ўдовы, то жывуць даўжэй.



* * *

— Якія былі апошнія словы вашага мужа?

— Выбачайце, пане суддзя, але мой муж ніколі не меў апошняга слова.



Бацька і дарослы сын былі вялікімі гультаямі. Неяк ляжаць яны і назіраюць, як маці носіць мяшкі з бульбаю. Бацька і кажа:

— Не бяры, Алеся, многа, на плечы не закінеш.

А сын падбадзёрвае:

— Нічога, мама, бяры, я паддам.

* * *

У судзе:

— Чаго ты прыйшоў сюды з калом?

— Мне адвакат загадаў, каб я забраў у суд "срэдства сваёй абароны".

* * *

Хоць мовы не забыўся, а то Зоська пабыла з месяц у горадзе, прыехала, то ўжо не кажа гузік, а пугавіца.




## ДЗЕЦІ, ДЗЕЦІ...

Аднаго разу ў малой дзяўчынкі пыталіся:

— Ці доўга Адам з Евай жылі ў раі?

— Пакуль яблыкі паспелі, — кажа яна.




* * *

Настаўнік:

— Скажы мне, Пятрусь, чаго Ной узяў у каўчэг чыстых сем пар, а нячыстых дзве пары?

— Штаноў, — адказаў вучань.

* * *

— Чаму злачынцаў, пакараных смерцю, называем беднымі грэшнікамі?— пытаецца ксёндз у малога Янкі.

— Бо... бо багатых грэшнікаў смерцю не караюць.

* * *

Малы Янка быў у гасцях у цёткі. Яна яго частавала кіслымі гуркамі, якія яму вельмі спадабаліся.

— А ці ў вашым гародзе растуць гуркі?— пытае цётка.

— Растуць, але не кіслыя.

* * *

У кухню ўбег хлапчук. Убачыў, што каваль трымае ў шчыпцах гарачае жалеза і кажа яму:

— Дзядзька, дай рубель — і я лізну.

Каваль, доўга не думаючы, дастаў з кішэні рубель і падаў хлапчуку.

Той лізнуў рубель, забраў яго і пабег з кузні.

* * *

— Хто з вас старэйшы — ты ці твой брат?— спыталі ў маленькага Міколкі.

— У мінулым годзе мама казала, што брат на год старэйшы за мяне. Так што сёлета я з ім зраўняўся,— адказаў Міколка.



# МУХА-ПЯЮХА

## Беларуская народная казка

Жыла-была муха-пяюха. Мела яна каляску і шэсць камароў. Запрэгла муха-пяюха камароў у каляску ды паехала на пагулянку. Едзе яна дарогаю, едзе шырокаю — бяжыць мышка:

— Добры дзень, пані! Як паню зваць-велічаць?

— Я муха-пяюха. А ты хто?

— А я па паліцах скрабатуха.

— Сядай, паедзем разам.

Едуць яны дарогаю, едуць шырокаю — скача жабка:

— Добры дзень, панове! Як вас зваць-велічаць?

— Муха-пяюха. Па паліцах скрабатуха. А ты хто?

— А я па сажалках рагатуха.

— Сядай, паедзем разам.

Едуць яны дарогаю, едуць яны шырокаю — сядзіць на галінцы вавёрка:

— Добры дзень, панове! Як вас зваць-велічаць?

— Муха-пяюха. Па паліцах скрабатуха. Па сажалках рагатуха. А ты хто?

— А я па елках скакуха.

— Сядай, паедзем разам.

Едуць яны дарогаю, едуць шырокаю — бяжыць заяц:

— Добры дзень, панове! Як вас зваць-велічаць?

— Муха-пяюха. Па паліцах скрабатуха. Па сажалках рагатуха. Па елках скакуха. А ты хто?

— А я праз дарогу скок.

— Сядай, паедзем разам.

Едуць яны дарогаю, едуць шырокаю — ідзе воўк:

— Добры дзень, панове! Як вас зваць-велічаць?

— Муха-пяюха. Па паліцах скрабатуха. Па сажалках рагатуха. Па елках скакуха. Праз дарогу скок. А ты хто?

— А я галодны воўк. Усіх вас паем.

Пачулі гэта камары, падняліся ўгору і паляцелі разам з каляскай. А галодны воўк паляскаў зубамі і пайшоў далей ні з чым.

Ігар СІДАРУК

# Немаўля ПОЛЬКА



– Ку-ка-рэку, ку-ка-рэку!–
Круціць пеўнік дыскатэку,
А ламбаду куры скачуць,
Бы ў Бразіліі,
Няйначай!

Тут падбегла Волечка:
– Лепш станцуем
Полечку!

І пайшлі круціцца пары,
Толькі кроў ва ўсіх зайграла!

– Полька – лепей!
Так, так, так! –
Адбівае пеўнік
Такт.





## Пра "гэта"

# ...І НІЯКАЙ ПАСПЕШЛІВАСЦІ:

Наступныя рэкамендацыі датычаць вас у тым выпадку, калі вы хочаце ўнесці элемент навізны ў вашы крыху застаялыя адносіны. Гэта не тыя неабходныя дзеянні, якія вы будзеце паўтараць часта. Яны прызначаны для таго, каб унесці разнастайнасць у сексуальную руціну, а не для таго, каб стаць часткай гэтай руціны. Калі вы будзеце выкарыстоўваць іх занадта часта, яны лёгка страцяць свой стымулюючы ўплыў.

Не ўсё прапанаванае можа вам спадабацца, хоць некаторых мужчын вельмі хвалюе, калі партнёрка падзяляе іх сексуальныя фантазіі. Іншым гэта здаецца пахабным умяшаннем у інтымнае жыццё. Майце ўласнае меркаванне. Разглядайце гэтыя рэкамендацыі як зыходны пункт для таго, каб стымуляваць вашу фантазію. Важна, каб вы ўдваіх атрымлівалі задавальненне ад таго, што робіце.

- Напэўна, самая каштоўная дапамога вашым любоўным заняткам заключаецца ў тым, каб удзяляць ім дастаткова часу, каб яны былі спакойнымі, пачуццёвымі і працяглымі. Плануйце гэта, як вы планавалі б любы іншы варты ўвагі від дзейнасці. (Не стане кампліментам жанчыне і, напэўна, абмяжуе ваша задавальненне секс наспех, калі вы, напрыклад, стаміліся пасля позняга кінасеанса і абодва ледзь трымаецеся на нагах.)
- Прыміце разам ванну ці душ.
- Патушыце святло, калі звычайна вы аддаяце яму перавагу, і наадварот.
- Займайцеся каханнем не ў ложку, а дзе-небудзь у іншым месцы.
- Выберыце для гэтага не зусім звычайны час. Напрыклад, прыйдзіце дадому з работы ў абедзенны перапынак.
- Пастаўце побач люстэрка, каб бачыць, як вы кахаеце адзін аднаго.
- "Перанясіце" вашы непасрэдныя адносіны за межы кватэры, дома. Але асцярожна выбірайце месца, каб вам не перашкодзілі.
- Стварыце пачуццёвую атмасферу з дапамогай ціхай музыкі і свечак.
- Чаргуйце любоўныя ўцехі з лёгкай закускай, або выпіце бутэльку віна ў ложку.
- Прачытайце адзін аднаму вытрымкі з эратычнага рамана, або разам паглядзіце сексуальны фільм.
- Раскажыце партнёру (партнёрцы) пра вашу любімую сексуальную фантазію – гэта можа стымуляваць вашы далейшыя дзеянні.

# "Я ЦЯБЕ ЗАСЯКУ..."

У дзяцінстве Волечка была прыгожай дзяўчынкай. Вясёлай, добразычлівай. Яе песцілі мама, тата, бабуля. Але Вольга не вырасла капрызнай. Наадварот, яна раней за іншых пачала хадзіць на ферму да маці — дапамагаць. А ўжо Алёшка — малодшы брат — еў толькі тады, калі на стол падавала сястра.

"Волька, калі цябе хто будзе крыўдзіць, напішы, я прыеду і галаву яму адарву",— абяцаў Алёша, калі ішоў у войска. Вольга тады была ўжо дарослай, сімпатычнай дзяўчынай і многія з хлопцаў сябравалі з Аляксеем толькі дзеля яго сястры.

Не паспелі праводзіць Алёшу, як прыйшлося рыхтавацца да новых урачыстасцей. Як гром сярод яснага неба, прагучалі словы Вольгі:"Я выходжу замуж". Яна, вядома ж, хадзіла на танцы, і хлопцы яе праважалі дамоў. Але Волечка ніколі позна не затрымлівалася, не цалавалася тайком на лаўках, як іншыя дзяўчаты.

Свае пачуцці да Пеці, хлопца з суседняй вёскі, Вольга хавала доўга. Стрыманы і маўклівы, ён, здавалася, зусім не цікавіўся дзяўчатамі. Але неяк, пасля танцаў, падышоў да яе, прапанаваў правесці. А праз месяц папрасіў стаць яго жонкай. І яна згадзілася.

Пеця прыйшоў да Івановых, як і належала, са сватамі. Бацькам спадабаўся адразу. "Талковы хлопец, ты за ім як за каменнай сцяной пражывеш",— заўважыла тады маці.

Толькі вось заўважыла Вольга: занадта шмат кілішкаў "перакуліў" яе каханы. "Ад хвалявання напэўна",— падумала нявеста.

Вяселле згулялі шумна, па-вясковаму багата, усе суседзі захапляліся гэтай цудоўнай парай. Вольга паехала да мужа ў вёску (калгас даў ім хату). Уладкавалася працаваць у сталовую, Пеця — механікам. Быццам усё ў іх ішло добра, ды толькі Лідзія Васільеўна заўважаць пачала: сумная яе Вольга прыязджае. Маці і так і гэтак да яе — дачка толькі маўчыць. "У мяне ўсё нармальна!.." Неўзабаве нарадзіўся ў Вольгі сын — увесь у маму. Вочкі чорныя, як вішанькі. Маці на яго налюбавацца не магла. Ды і Пётр быццам любіў малога. Лідзія Васільеўна забылася пра свае думкі. Але неяк вярталася з райцэнтра са знаёмай, што жыла ў адной вёсцы з Вольгай. Слова за слова — і раптам тая: "Я цябе разумею. Сама ўжо тры гады цярплю. І хто толькі выдумаў тую гарэлку?" "Пра каго гэта ты?" — спытала Лідзія Васільеўна. "Пра зяцька твайго... А ты што, нічога не ведаеш?"— здзівілася знаёмая.

Сямейнае жыццё Вольгі было поўным кашмарам. Пра іх сваркі ведала ўся вёска. Яшчэ да сустрэчы з Воляй, Пётр злоўжываў спіртным. Жонка, на жаль, не змагла яго перайначыць. "Мы ўжо Вользе гаварылі,— у роспачы распавядала суседка,— кідай яго! Ён табе ні капейкі не дае, абражае, б'е. А яна нічога, маўчыць толькі. Пагутарыты з ёй, Ліда. Не сябе, дык няхай хоць дзіця пашкадуе".

Назаўтра, адклаўшы ўсе справы, Лідзія Васільеўна вырашыла ехаць да дачкі. Але ехаць не прыйшлося. Вольга прыйшла сама...

"Мама, пасядзі з Віцечкам. Я — у бальніцу". Пасля доўгіх угавораў Вольга расказала, што пасля чарговай п'янай сваркі, Пётр стаў, як і заўсёды, патрабаваць грошай. Вольга не дала. "Я цябе, дрэнь, засяку зараз,— закрычаў муж, выбег у двор і вярнуўся з сякерай. "Толькі б Віцьку не крануў",— падумала Вольга. Пётр быццам звар'яцеў. Кінуўшыся да жонкі, ён з усяго размаху ўдарыў яе тапарышчам па калену...

Праз тыдзень боль узмацніўся, на калені ўтварылася пухліна. Урач у райцэнтры даў накіраванне ў Бараўляны, тады яна і прыехала да бацькоў.

"Гэта было як страшны сон. Мы пачулі слова "саркома" і зразумелі: жыць Вользе засталося некалькі месяцаў..."

Ад болю яна крычала так моцна, што было чуваць на ўсіх калідорах... Яшчэ праз месяц Вольгі не стала. Ёй было 23.

Вярнуўся з войска Алёша з маладой жонкай, усынавілі Віктара. Цяпер у іх яшчэ двое сваіх дзяцей. Віцечку — два з паловай гады. Прыёмных бацькоў ён кліча "мама Света" і "тата Лёша". А фотаздымак "сапраўднай" маці захоўвае на самым дне скрынкі з цацкамі.

Наталля ЧАРАПКО.



Фота Аляксея МАЦЮША.

## Інтым–кактэйль

### МІЛЫЯ СВАРАЦЦА — ТОЛЬКІ ЦЕШАЦЦА

Вучоныя аднаго з універсітэтаў ЗША больш як год назіралі за палавым жыццём пяці тысяч пар суайчыннікаў. Методыка вывучэння пытання засталася "за кадрам", а вось вынікі былі абнародаваныя. Аказваецца, муж і жонка, якія часта сварацца, часцей займаюцца каханнем, прычым страсць прама прапарцыянальная "інтэнсіўнасці" скандалу. Псіхолаг Дэніза Данэлі, якая ўзначальвала групу вучоных, наступным чынам растлумачыла гэты псіхалагічны феномен:"Пасля кожнай сваркі як бы вяртаецца мядовы месяц".

### ЗАМЕСТ ЗАРАДКІ

Тыя ж самыя амерыканцы сцвярджаюць, што "пік" мужчынскай палавой актыўнасці прыходзіцца на восем гадзін раніцы. Вывад, згадзіцеся, не самы суцяшальны для нашых мужчын, калі ўлічыць, што ў гэты час многія з іх атакуюць грамадскі транспарт, а не сваіх партнёрак. Дарэчы, пра "пік" сексуальнай актыўнасці апошніх увогуле не гаворыцца нічога. А раптам яны супадаюць?

### МАША, АЛЕ НЕ НАША

Нядаўна сярод брытанскіх мужчын правялі чарговае апытанне. На гэты раз – прыемнае. Ад іх патрабавалася назваць імя жанчыны, дзеля якой "можна пайсці на ўсё". Такім чынам, на першым месцы апынулася славутая "кошачка" Мішэль Пфайфер, галоўная гераіня фільма "Вяртанне Бэтмэна". На другім – прынцэса Дзіяна, на трэцім – спявачка Мадонна. Дарэчы, "Вяртанне Бэтмэна" не так даўно дэманстравалася і на нашых блакітных экранах, але ні сам фільм, ні спакуслівая галоўная гераіня ажыятажу сярод моцнай паловы не выклікалі. Мішэль Мішэллю, але, як кажуць, свая Машка бліжэй да цела...

### ЗА ДВУМА ЗАЙЦАМІ

Тэрмін "мнагажонства" нам вядомы даўно – ён датычыць прадстаўнікоў моцнай паловы. А як назваць жанчыну, якая з поспехам спраўляецца з роллю жонкі некалькіх мужчын? Прычым, афіцыйнай? Відаць, менавіта гэта пытанне прыйшло ў галаву жыхару сталіцы штата Каларада, калі, праглядваючы рахунак за тэлефон, ён знайшоў там незнаёмы нумар. І, адчуўшы прыліў рэўнасці, вырашыў пазваніць... Трубку зняў незнаёмы мужчына. У працэсе размовы з ім раўнівец высветліў, што на працягу многіх год незнаёмец з'яўляецца законным мужам...яго ўласнай жонкі. Чым скончылася размова двух афіцыйных "раганосцаў" – застаецца здагадвацца. Вядома толькі адно – іх жонцы цяпер не пазайздросціш...

Па матэрыялах друку.

♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥

Асабістае

# АХ, КАЦЯ, КАЦЯ, КАЦЯРЫНА...

Дзяўчынка, пра якую хачу расказаць, — звычайная. Вялікія вочы, доўгія валасы, спакойная, сціплая...Што тут асаблівага? Бацькоў сваіх ніколі не турбавала, вучылася нядрэнна. Настаўнікаў паважала, з аднакласнікамі сябравала... Ну і хлопцам, безумоўна, падабалася. Усё ішло ціха, спакойна да той пары, пакуль не з'явіўся ў школе новы фізрук, малады, дужы, прыгожы... У дзяўчат-старшакласніц не было больш спраў, як шукаць прычыну сустрэцца з ім. Некаторыя набіраліся смеласці і пасля ўрокаў заходзілі да яго, каб шчыра прызнацца ў сваіх пачуццях. Невядома, колькі такіх прызнанняў прыйшлося яму выслухаць...

Аднаго разу на ўроку фізкультуры Каця ледзьве не сарвалася з бруса — Сяргей Пятровіч паспеў падтрымаць яе, схапіць на рукі... Што адбылося ў гэты момант — цяжка сказаць. Ён адчуў пах яе валасоў, лёгкасць яе цела, абаяльнасць юнацтва... Кацярына выслізнула з рук і пабегла з залы.

Потым яна не раз лавіла на сабе яго пранікнёна-пяшчотны позірк, адчувала, як стараецца Сяргей Пятровіч звярнуць на сябе яе ўвагу. Дарэмна. Каціны вочы заставаліся халоднымі і не пакідалі ніякай надзеі...

Скончылася апошняя чвэрць апошняга школьнага года. Клас аднагалосна вырашыў пайсці ў развітальны паход за горад, з начоўкай і сапраўдным вогнішчам. Гэта быў цудоўны дзень, апошні дзень Каціната бесклапотнага жыцця, але тады яна яшчэ не ведала гэтага.

...Калі на небе з'явіліся першыя зоркі, запалілі вялікае вогнішча. Вячэралі разам, спявалі песні. Сяргей увесь час вышукваў вачыма Кацю. Яна сустракалася з ім поглядам і апускала твар... Потым Кацярына некуды знікла. Сяргей падняўся з зямлі і рушыў у бок рэчкі — ніхто не звярнуў на яго ўвагі.

...Каця сядзела і глядзела на бліскучую паверхню вады. Было ціха і ўтульна. Фізрук моўчкі прысеў побач. Яна нават не варухнулася. Спачатку Сяргей дакрануўся да яе лёгкіх, прыгожых валасоў, потым абняў за плечы. Каця маўчала. Ён пачаў цалаваць яе вочы, вусны... Ужо, не валодаючы сабой, абдымаў тонкі дзявочы стан... У "лагер" яны вярнуліся толькі пад раніцу.



Потым былі апошнія экзамены, выпускны вечар... Фізрука Каця не бачыла, хоць хацела гэтага больш за ўсё на свеце...

Праз два месяцы, калі яна была дома адна, у дзверы нехта пазваніў. Абыякава падышла, і не пытаючыся хто — адчыніла. Не здзівілася, калі Сяргей Пятровіч зайшоў у кватэру і ўзяў яе за руку. Не здзівілася, калі спытаў:

— Ты будзеш маёй жонкай?

Як даўно яна гэтага чакала...

Таццяна ТЫШКОЎСКАЯ.

Ад рэдакцыі:

Дзіўна – але ў гэтай гісторыі шчаслівы канец. А мы ў апошні час так прывыклі да адваротнага... На мужчыну, які дорыць жанчыне букет кветак, глядзім, як на вар'ята. А самі кветкі ўспрымаем як прэлюдыю да "ложка". Вакол столькі бруду, што ўжо не хочацца верыць у сваю выключнасць і непаўторнасць, нават у вачах аднаго чалавека... Прыгажосць выратуе свет. Каханне – і ёсць Прыгажосць, непасрэдная яе частка... Пішыце нам пра сваё каханне – маленькае і вялікае, першае і апошняе, шчаслівае і нешчаслівае. Давайце разам выратоўваць наш ачарсцвелы, наш раўнадушны свет.

Ваша Н.С.

Старонку "Адам і Ева" вядзе Наталля СТРАЛКОВА, т. 32-50-01.

# ЧАЛАВЕК, ЯКІ НЕ СУМУЕ

*Гадзіннік адлічваў доўгія секунды, а інструментальную фанаграму ўсё не давалі. Сціскаючы ў руках мікрафон, Саша выразна бачыў непаразуменне на тварах гледачоў і членаў журы тэлеконкурсу "Славянскі кірмаш-92". Ён з запалам звярнуўся да поўнай залы: "Дзе вашыя рукі, не бачу?" і пачаў пляскаць, спрабуючы выклікаць рэакцыю ў адказ. Тут нарэшце загучалі першыя акорды вядомай "Каралевы" — і Саладуха заспяваў... Паўтары хвіліны цягнулася вымушаная паўза, якая была сапраўдным выпрабаваннем вытрымкі і самавалодання артыста. Эстрадныя мэтры, якія назіралі гэтую сцэну, потым падыходзілі да Сашы, каб выказаць сваё захапленне: "Малайчына! Мы б, напэўна, так не здолелі!.. Сёння Аляксандр Саладуха — госць рубрыкі "9х12".*



**– Саша, чаму ты не прыняў удзелу ў "Славянскім кірмашы" ў якасці канкурсанта?**

— Я быў заяўлены ў праграме конкурсу, але літаральна за дзень да майго выступлення "пасадзіў" голас і быў вымушаны звярнуцца да ўрача. У выніку прыйшлося задаволіцца толькі роллю госця, хаця і быў настроены на барацьбу за лідэрства.

**– Відаць, у тваім актыве хапае і іншых поспехаў на эстрадных конкурсах?**

— Наогул так, я ўжо не навічок на эстрадзе. Так, у снежні 88-га выйграў адборны турнір Усесаюзнага конкурсу "Юрмала-89" у рэспубліцы. На жаль, удзельнічаць у ім мне не дазволілі па ўзросту. У студзені мне стукнула трыццаць...

Наступны сур'ёзны поспех прыйшоў на 1-м міжнародным тэлефестывалі "Шлягер-90" у Санкт-Пецярбургу. Выкананне песень "Карусель" і "На вуліцы старадаўняй" дало даволі нядрэннае месца ў конкурсе. Зразумела, што разлічваць на прызавую тройку было нерэальна — вельмі аўтарытэтнымі былі сапернікі. Гран-пры тады ўзяў Ф.Кіркораў, а першыя тры месцы падзялілі паміж сабою групы "Кар-Мэн", "Доктар Мора" і Яўген Кулікоў. Пазней я ўдзельнічаў і ў іншых песенных конкурсах. Думаю, што на мой век іх хопіць.

**– Скажы шчыра, канкурэнцыі не баішся?**

— Не. А канкурэнцыя на эстрадзе — нармальная з'ява. Калі артысты вырастаюць да "зоркавай" велічыні, на змену ім прыходзіць моладзь. Праўда, пачынаючым сёння вельмі цяжка прабіцца. Але, хай даруюць мне за нясціпласць чытачы, іншых выканаўцаў шлягераў, якія спяваюць барытонам, у рэспубліцы не бачу.

**– А ў маштабах былога Саюза?**

— Пажывём — пабачым. Думаю, што з часам здолею заваяваць і гэту прастору.

**– Вельмі сціплая заява. Цікава, а як ты прыйшоў на эстраду?**

— Выступаць на прафесійнай сцэне пачаў гадоў пяць таму, калі мне споўнілася ўжо 28 гадоў!

**– Наогул цябе цяжка назваць маладым спеваком. А чым займаўся дагэтуль?**

— Як і ўсе савецкія людзі, хадзіў у школу. У чацвёртым класе бацькі "аддалі" мяне ў музычную школу па класу фартэпіяна пры гарнізонным Доме афіцэраў (наша сям'я тады жыла ў ваенным гарадку на возеры Балхаш). Праўда, на заняткі па сальфеджыо я хадзіў без асаблівага жадання, а вось нотная грамата спатрэбілася потым, калі пачаў займацца музыкай сур'ёзна. З шостага класа я зачыняўся ў ванным пакоі ад бацькоў, каб не перашкаджалі, і вучыўся іграць на гітары. Мне тады падарылі яе на дзень нараджэння — самую танную, маленькую. Старэйшыя хлопцы паказалі мне тры простыя акорды, і я стаў сам іграць і спяваць. У той час якраз па ЦТ паказалі першы музычны фільм з удзелам "Песняроў", былі вельмі папулярныя песні Э.Хіля, Ю.Антонава, А.Градскага. Таму я ахвотна напяваў дома "Касіў Ясь канюшыну", "Опять от меня сбежала последняя электричка" і іншыя песні. Колькі сябе памятаю, заўсёды ўдзельнічаў у мастацкай самадзейнасці: спачатку выступаў у школьным, а потым — у інстытуцкім ансамблі.



**– Відаць, пасля школы ты пайшоў у інстытут культуры?**

— Вось і не адгадаў. Мае бацькі хацелі, каб я прадаўжаў музычную адукацыю або пайшоў у ваеннае вучылішча. У мяне было яшчэ адно захапленне — спорт. Яшчэ ў школе я добра гуляў у баскетбол, нават меў 2-гі разрад і выступаў за юнацкую зборную Казахстана. І каб нікога не пакрыўдзіць, я ўзяў і падаў дакументы ў медыцынскі інстытут у Джэзказгане. І ўяві сабе, паступіў без асаблівай цяжкасці. Пасля пераезду бацькоў у Беларусь перавёўся ўслед за імі ў Мінск.

**– Дык ты, як і Разенбаум, падаўся з урачоў у артысты?**

— Гэта не зусім так. Ён працаваў урачом "Хуткай дапамогі", а я скончыў санітарна-гігіенічны факультэт. Першыя паўтара года я працаваў санітарным урачом у Мінску, а потым тры з лішнім гады інспектарам рыбааховы ў рэспубліканскім апараце.

**– І як жа ты адважыўся пакінуць такія "цёплыя" месцы?**

— Усе гэтыя пяць гадоў я пакутаваў ад усведамлення таго, што займаюся нечым не тым. Нарэшце ў адзін цудоўны дзень адважыўся і падаў заяву аб звальненні. У сакавіку 1988 года пачаў новае жыццё: пайшоў працаваць спеваком у канцэртную праграму рэстарана мінскай гасцініцы "Юбілейная".

**– І доўга ты там пратрымаўся?**

— На маё шчасце, на трэці дзень маёй працы вечарам у бар пасля канцэрта прыйшоў адпачыць народны артыст СССР К.Арбелян, які гастраляваў у горадзе. Маэстра паслухаў маё выступленне і запрасіў да свайго століка. Пацікавіўся маёй персонай і стаў у прамым сэнсе "хросным" бацькам.

**– Як гэта?**

— Ён параіў узяць мяне салістам у Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі, які ствараўся пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, дзе я і працаваў цэлы год. На новы тэрмін, праўда, са мной кантракт не падпісалі — абвінавацілі ў адсутнасці голасу. Маўляў, такіх спевакоў у рэспубліцы хоць адбаўляй!..

**– А як ты апынуўся ў тэатры песні Паплаўскай і Ціхановіча?**

— Мне і самому, шчыра кажучы, гэта не зусім зразумела. З аркестра мяне папрасілі, а яны не пабаяліся ўзяць у сваю праграму для "разагрэву". Два гады я ад'ездзіў з Ядзяй і Сашам па ўсёй краіне, набіраўся вопыту. А калі адчуў у сабе сілы, то пайшоў і пачаў выступаць самастойна з групай "Карусель".

**– Саша, выходзіць, акрамя знешняга і ўзроставага падабенства, у цябе з Ігарам Тальковым яшчэ і пачатак творчых біяграфій падобны?**

— Так атрымліваецца. Я шчаслівы, што лёс звёў мяне з гэтым таленавітым чалавекам, спеваком і кампазітарам. Пазнаёміліся мы на фестывалі польскай песні ў Віцебску два гады таму. Моцна ўрадзіла наша размова пра музыку і сэнс жыцця... У яго гонар я амаль на ўсіх канцэртах выконваю песню А.Елісеенкава на словы Ю.Данііеля "Успамінайце мяне!"

**– А сам не спрабаваў складаць песні?**

— Не, я толькі выконваю іх. Хоць магу зрабіць аранжыроўку або падыграць сабе на фартэпіяна. Затое заўсёды ўнутраным пачуццём вызначаю: мая гэта песня ці не? У іншым выпадку нават не бяруся за яе выкананне.

**– З кім з кампазітараў ты супрацоўнічаеш?**

— У асноўным з нашымі, беларускімі. Выконваю песні майго сябра і аднагодка — Алега Елісеенкава, а таксама ў маім рэпертуары гучаць песні Эдуарда Ханка, Ігара Лучанка і Ігара Брыксы. Маё прызванне — эстрада, хаця спрабаваў свае сілы і ў бардаўскай песні.

**– Саша, у тваім рэпертуары ў асноўным гучаць песні нашых кампазітараў, аднак спяваеш ты, як правіла, па-руску?**

— Гэта так, і невыпадкова. Хоць сам я па пашпарту запісаны беларусам, але нарадзіўся ў Загорску, а потым доўгі час з бацькамі пражыў у Сярэдняй Азіі. Таму і спяваю для слухачоў усяго былога Саюза. А на якой мове гучаць мае песні, для мяне проста не мае значэння. Галоўнае, каб яны былі добрымі і маглі закрануць за жывое людзей. А наогул песня можа абысціся без перакладчыка. Славянскія мовы, да прыкладу, вельмі падобныя: рускі заўсёды зможа зразумець беларуса, а той у сваю чаргу разбярэцца ва ўкраінскай мове. Таму спяваць толькі на беларускай, відаць, не зусім правільна. Ілжэпатрыятызм яшчэ ніколі не даводзіў народы да дабра, чаму мы маем шмат прыкладаў у нашай шматвяковай гісторыі.

**– А не баішся, што цябе пасля падобных заяў папросту "папросяць" з эстрады?**

— Ужо не баюся. Некалькі год таму ўжо спрабавалі адлучыць мяне ад эстрады, але ў іх нічога не атрымалася: я на сцэне, я спяваю. І калі спатрэбіцца, за сябе здолею пастаяць!

**– Калі ласка, раскажы крыху пра асабістае жыццё.**

— Я шчаслівы чалавек, таму што ў мяне ёсць усё: дом, сям'я і любімая праца. Мая жонка Наташа ў свой час сем гадоў выступала ў папулярным жаночым ВІА "Чараўніцы", таму выдатна разумее мяне і шмат дапамагае ў творчасці. З некаторага часу яна выступае ў маёй групе "Карусель-2", іграе на бас-гітары. Разам мы выхоўваем двух цудоўных сыноў-двайнятак — Сашу і Антона.

**– Так што, з цягам часу мы зможам убачыць на сцэне ваш сямейны квартэт?**

— Гэта не выключана. А пакуль яны цярпліва чакаюць за кулісамі заканчэння нашага выступлення і паціхеньку далучаюцца да качавога жыцця бацькоў-артыстаў.

**– Што новага ў творчым плане?**

— Зусім нядаўна вярнуўся з паездкі ў ФРГ, дзе выступаў на святкаванні дня горада-пабраціма Віцебска—Нінбурга ў Ніжняй Саксоніі. Шмат працую на студыях, запісваюся на радыё і тэлебачанні, гастралюю па краіне. Паспрабаваў свае сілы ў новым амплуа — зняўся ў ролі сярэдневяковага спевака ў тэлефільме "Пралог". Рыхтуюся да выступлення ў конкурсе "Песня года". Сумаваць няма калі!

**З узыходзячай поп-зоркай размаўляў Аляксей БЕЗВЯСЕЛЬНЫ.**

# КРЫМІНАЛЬНАЕ БЮРО

## РЭКЕТ У ПРОФІЛЬ І АНФАС,

## альбо Каго корміць дзяржаўная мяжа?



Восень. Холадна. Ідзе дождж. У такі час, гавораць людзі, добры гаспадар сабаку на вуліцу не выганіць. Але тут, недалёка ад Варшаўскага моста, людна. Ля месца перасячэння дзяржаўнай мяжы, нягледзячы на капрызнае надвор'е, ідзе сваё жыццё: вялізная чарга, якой, здаецца, не будзе канца, нібыта вужака, павольна паўзе да мытні. Людзі суткамі чакаюць той хвіліны, калі апынуцца на тэрыторыі суседняй Польшчы. А пакуль яны літаральна вядуць барацьбу за сваё існаванне, бо ніякіх чалавечых умоў тут няма. І гэта нягледзячы на тое, што перасякаючыя мяжу даўно плацяць грошы мясцовым уладам, якія павінны паклапаціцца аб добраўпарадкаванні тэрыторыі, што мяжуе з граніцай. Улады абяцаюць і... нічога не робяць. Гэта бяздзеянне на руку спекулянтам, рэкецірам, мафіёзі. Мяжа для іх — карміцелька. Яна дае грошы, валюту, тавар на тую ж Польшчу.

Самыя прыкметныя на мяжы — пенсіянеры. Тут іх нямнога, але менавіта ў іх можна купіць "пепсі", "фанту", ваду, марожанае, цыгарэты, гарэлку і іншыя прадукты і тавары. Цэны на іх, зразумела, намнога вышэйшыя, чым у магазіне. Але ж хто сёння глядзіць на тыя цэны, ды яшчэ на мяжы, дзе ў большасці сваёй збіраюцца людзі далёка не бедныя?

— Бяруць усё, — расказвае брэсцкая пенсіянерка Ганна Андрэеўна Янковіч. — Сёння я агуркі салёныя прадавала і яблыкі. Мала, гавораць, прынесла, ідзі яшчэ. Я і іду. Заробак невялікі, але для мяне і немалы.

Іван Сцяпанавіч Коўтун, жыхар бліжэйшай вёскі, пераважна прадае танныя цыгарэты і самагонку. Перад тым, як вяртацца дамоў, збірае пустыя бутэлькі.

— Бізнес, — сумна ўсміхаецца ён, — дзеці параз'язджаліся па свеце, не дапамагаюць, а жыць неяк трэба. Вось і кручуся...

І Г.А.Янковіч, і І.С.Коўтун, і іншыя пенсіянеры, якія прадаюць і перапрадаюць на мяжы няхітры тавар, гарэлку і закуску, маюць за дзень да трохсот рублёў прыбытку.

Намнога больш зарабляюць аўтаматарызаваныя "бізнесмены", якія прадаюць сваё месца ў чарзе. Некаторыя з іх справу паставілі на канвеер. Робіцца гэта так. Два-тры чалавекі ставяць свае машыны ў чаргу ў розных месцах. Калі першы аўтамабіль набліжаецца да мытні, уладальнік яго прадае чаргу, гэта значыць уступае сваё месца найбольш багатаму і нецярпліваму аўтатурысту, які хоча хутчэй трапіць за мяжу. Прадаўшы, зноў становіцца ў хвост чаргі. Яго таварыш робіць тое ж самае. Такса — ад трох да дзесяці тысяч рублёў і больш.

— У месяц у сярэднім атрымліваецца ад ста да стапяцідзесяці тысяч рублёў, — расказвае адзін з такіх бізнесменаў Аляксандр Крышталь. — Калі пашанцуе, то і валюта перападае.

Аляксандр нядаўна скончыў інстытут, але нідзе не працуе. Такога ж узросту і яго таварышы. Яны трымаюцца разам і могуць пастаяць за сябе. У машынах маюць газавыя балончыкі і стальныя пруты. На ўсялякі, як кажуць, выпадак.

Але лепш за ўсё жывецца рэкецірам. Яны тут самыя небяспечныя і "крутыя". У асноўным працуюць з тымі, хто вяртаецца з-за мяжы. Спецыялізуюцца на паляках, забіраючы ў іх савецкія грошы, валюту, тавары, што вязуцца на продаж. Прычым забіраюць усё гэта не непасрэдна на мяжы, а ў дарозе, на базары, гасцініцы. Як правіла, мала хто з замежных грамадзян звяртаецца ў міліцыю, бо рэкеціры бяруць у асноўным той тавар, які інтурысты не адзначаюць у дэкларацыі. Тавар кантрабандны.

Адзін з рэкеціраў, Уладзімір, які адразу папярэдзіў аб недапушчальнасці з'яўлення ягонага прозвішча ў друку, сказаў:

— Амаль усе палякі займаюцца ў нас спекуляцыяй. Прывозяць не толькі адзенне, біжутэрыю, але і газавыя балончыкі, газавыя пісталеты. Здараецца, прадаюць і баявую зброю. Я, напрыклад, адразу бачу, хто, колькі і чаго вязе. Выбіраю самых багатых.

Уладзімір расказвае пра свай промысел так, нібыта гаворка ідзе аб нечым самым звычайным. Адчувае ён сябе ўпэўнена.

— Мне няма чаго баяцца, — гаворыць ён, — людзі сёння ўсім напалоханы: злачынствамі, павышэннем цэн, невядомай будучыняй. Кожны стараецца абараніць сябе, сваю сям'ю, а да чужых, ды яшчэ замежных турыстаў, нікому справы няма. Міліцыя ж працуе не вельмі эфектыўна...

На жаль, гэта так. Застаецца спадзявацца на будучыню, калі ўсё ў нашай рэспубліцы стане на сваё месца, будзе парадак, усе людзі зоймуцца справай і будуць ездзіць за мяжу не прадаваць, а глядзець на свет, любавацца яго прыгажосцю. А пакуль... Пакуль мяжа жыве сваім супярэчлівым жыццём.

Нават перад самай мытняй прагныя да лёгкага хлеба людзі бессаромна і несумленна зарабляюць грошы. Адбываецца гэта вельмі проста. Рэчы, якія мытнікі не прапускаюць праз мяжу, турысты павінны здаваць у скупку. Але на дарозе да яе стаяць перакупшчыкі. Яны за бясцэнак скупліваюць усё, што мае цану. Нярэдка запалохваюць людзей, а то і адбіраюць у іх тое, што нельга везці за мяжу. Тут жа гэты тавар яны перапрадаюць іншым турыстам, у якіх ёсць на мяжы "акно", у каго на мытні працуе сваяк, знаёмы, таварыш, які правярае сумкі не так строга, як у іншых.

Тут, безумоўна, можна гаварыць аб сумленні мытнікаў, іх абавязках, нарэшце, аб законе, але ж нельга не ўлічваць тое, што людзі, якія працуюць на мяжы, такія ж, як і ўсе мы. Не сакрэт, што некаторыя з іх парушаюць свае службовыя абавязкі дзеля асабістай выгады. Калі я сказаў пра гэта аднаму з іх, ён злосна выпаліў:

— Мы не аўтаматы. Каб не было парушэнняў, павінны быць дзейсныя і разумныя законы. А такіх няма. У выніку давялі вялікую краіну ледзь не да жабрацтва. Што ж вы хочаце ад нас?..

Згадзіцеся, рытарычнае пытанне. Ад яго адзін крок да сімвалічнай працы. Каментарыі тут, як гаворыцца, непатрэбныя.

Мяжа, як ні круці, для многіх стала шчодрай карміцелькай. Перастане яна такой быць, калі ўезд у нашу рэспубліку і выезд з яе будзе па-сапраўднаму свабодным. Калі знікнуць чэргі — людзі не будуць суткамі стаяць на холадзе, марнець у сваіх машынах без цяпла, эканомячы бензін. Калі жыццё наша стане цывілізаваным і ва ўсіх будзе хлеб і да хлеба.

**А.РАЗАНОВІЧ.**

# САЛДАЦКІ "ТРЫБУНАЛ"

Лічу неабходным адразу агаварыцца: пакуль ваеннай пракуратурай не скончана следства, не маю права назваць сапраўдныя прозвішчы герояў свайго матэрыялу.

...У гэтую часць старшы лейтэнант С.Свярдлоў (назавём яго так) прыбыў вясной. Толькі крыху асвоіўся, як у жніўні намеснік камандзіра батальёна па выхаваўчай рабоце ідзе ў водпуск і пакідае старшага лейтэнанта замест сябе. І ўсё б нічога, калі б у канцы месяца не адбылося непрыемнае здарэнне. Трое ваеннаслужачых другога года службы, папярэдне разагрэўшыся спіртным, вырашылі навучыць розуму маладых салдат. У той жа дзень узялі з іх прыклад яшчэ тры стараслужачыя. Пасля адбою яны цешыліся тым, што будзілі маладых таварышаў па службе і "ўбівалі" ім прапісныя армейскія ісціны пры дапамозе кулакоў.

Старшы лейтэнант адразу ж далажыў па камандзе пра непрыемны выпадак. Аднак у наступныя выхадныя гісторыя паўтарылася: сюжэт і дзеючыя асобы былі тыя ж.

Падняўшы з ложкаў маладых салдат, якія ўжо спалі, група казарменных хуліганаў пачала здзекавацца з малодшых таварышаў па службе, якіх па адным выклікалі ва ўмывальнік або пакой умывальні або бытавога абслугоўвання. "Дзяды" прымушалі маладых салдат аджымацца ад падлогі, лічыць колькі дзён засталося да загаду, зневажалі фізічна.

Праз тры дні — новае надзвычайнае здарэнне. Толькі на гэты раз да "выхавальнікаў моладзі" прымкнуў і малодшы камандзір. Сяржант Г.Сяргееў (потым разжалаваны за свой праступак да радавога . — Заўвага аўт.) вырашыў адзначыць з сябрамі сваё вяртанне з водпуску. Для гэтай мэты ім была прызапашана бутэлька далёка не прахаладжальнага напітку, пасля распіцця якой ён прымкнуў да герояў папярэдніх "подзвігаў".

Не чакаючы пачатку расследавання ваенным дазнавальнікам, старшы лэйтэнант С.Свярдлоў па гарачых слядах сабраў тлумачальныя запіскі ў пацярпеўшых з апісаннем здзекаў. Нягледзячы на тое, што толькі чатыры з дзевяці "адзначаных" былі яго падначаленымі, афіцэр ацэньваў здарэнне ў больш шырокім маштабе. Пры гэтым яго нікольки не палохалі магчымыя вынікі: чаго-чаго, а непрыемнасцей за свой прынцыповы характар і імкненне шукаць праўду за пяць гадоў афіцэрскай службы ён зазнаў нямала...

Многія з маладых салдат не хацелі ўскладняць сабе жыццё. "Каму гэта трэба, падобнае адбываецца ўсюды! Раптам да іх ніякіх мер не прымуць, а нам яшчэ жыць і служыць тут прыйдзецца", — гаварылі яму многія ў час размоў. І афіцэру давялося даказваць і пераконваць у тым, што не трэба нічога баяцца — справядлівасць абавязкова пераможа! Потым ён пачаў разумець, што стрымаць дадзенае падначаленым слова яму будзе вельмі няпроста...

Камандзір батальёна належным чынам адрэагаваў на рапарты старшага лейтэнанта С.Свярдлова і даручыў ваеннаму дазнавальніку правесці расследаванне. З немалым жыццёвым і службовым вопытам маёр Л.Валянцінаў даволі хутка разабраўся ў сутнасці справы. Праўда, не ўсе салдаты пажадалі даваць чыстасардэчныя паказанні і каяцца ў тым, што здарылася. Аднак упэўнены ў іх віне афіцэр накіраваўся ў ваенную пракуратуру, каб далажыць аб рашэнні камбата ўзбудзіць крымінальную справу на ўсіх удзельнікаў (пазней, акрамя васьмі, стала вядома пра "штукарствы" яшчэ аднаго чалавека. — Заўвага аўт.), а заадно параіцца, як быць далей.

У пракуратуры візіту маёра Валянцінава асабліва не ўзрадаваліся. Сёння шырока вядома, што ваенным юрыстам сумаваць не прыходзіцца — колькасць праваапарушальнікаў узрастае. Ды і пастаянны недакамплект следчых не спрые барацьбе са злачыннасцю...А тут яшчэ хочуць "падсунуць" ні многа ні мала, а дзевяць крымінальных спраў па неўстаўных узаемаадносінах! Так дазнавальніку далі адразу зразумець: маўляў,"вы не той дорогой идете, товарищи!.." Ваша справа займацца сувяззю (такія эмблемы былі на пятліцах Валянцінава), а мы ўжо самі вырашым: каго і колькі чалавек прыцягваць да крымінальнай адказнасці. Пра пазіцыю ваеннага пракурора хутка стала вядома ў батальёне. Падобная рэакцыя, вядома ж, не задавальняла камандаванне, і, у першую чаргу, старшага лейтэнанта Свярдлова. Атрымаўшы падтрымку ў асобе намесніка камбата, які выйшаў з водпуску, ён паспрабаваў давесці свой пункт гледжання да работнікаў ваеннай пракуратуры. Але тыя цвёрда стаялі на сваім.

— Вы што, хочаце, каб я пасадзіў усіх? — спытаў пры сустрэчы падпалкоўнік юстыцыі С.Барысаў. — Зразумейце, падобных спраў намі расследуецца дзесяткі, пабывайце для цікавасці ў гарнізонным шпіталі і вызначце, колькі там бывае пацярпеўшых ад неўстаўных адносін салдат... Таму будуць асуджаны толькі арганізатары і найбольш актыўныя ўдзельнікі свавольстваў у казарме.




Сапраўды, уздзейнічаць на ход следства газета не мае права, як і я не магу патрабаваць пасадзіць за краты дзевяць салдат, якія хутка завершаць службу. Аднак выказаць уласную думку ўсё ж паспрабую. Пазіцыя і турботы ваеннага пракурора зразумелыя. І справа папалася нецікавая, і следчы ёй займаецца малады, ды і няма асаблівага жадання аддаваць пад суд столькі маладых хлопцаў. Ну, а як жа быць з непазбежнасцю пакарання? Пакуль што на гаўптвахце ў якасці падследчых сядзяць толькі двое, якія на думку камандавання батальёна, на ролю арганізатараў не вельмі падыходзяць. Думаецца, калі мы і сапраўды ўзялі курс на пабудову прававой дзяржавы, дык хай у канчатковым выніку ў ваенным трыбунале вызначаць ступень віны кожнага, хто дазваляў сабе задавальненне зневажаць малодшых таварышаў.

А вы як думаеце?

А.БЕЗВЯСЕЛЬНЫ.



«МРОЯ»



«КРАМА»

# РОК, ДУБІНКА І ВЯСЁЛЫ НАСТРОЙ

28–29 лістапада ў горадзе над Бугам прайшоў «Берасцейскі рок-кірмаш-92».



«НОВАЕ НЕБА»

Здаецца, на Берасцейшчыне нараджаецца новая цікавая традыцыя. Фестываль "Берасцейскі рок-кірмаш-92", з апошніх акордаў якога не прайшло і тыдня (ён адбыўся 28–29 лістапада), з поўным правам можна было б назваць першым нацыянальным рок-фэстам на роднай зямлі, каб не выступленні баранавіцкага "Крока", дзе не было нічога рокавага, віцебскага "Вакзала" і аршанскага "Стрымэкса", дзе не было нічога нацыянальнага, і камянецкага "Музычнага падвала", дзе не было нічога ні рокавага, ні нацыянальнага.

Ну што ж, здаецца, ужо зашмат песімістычных выключэнняў, каб павесці аптымістычную гаворку пра такую мастацкую з'яву, як беларускі рок. І ўсё ж застаецца нямала падстаў, каб адчуць у "Берасцейскім рок-кірмашы" працяг добрых традыцый "Басовішча". Тады паўстае пытанне: няўжо беларуская маладзёжная субкультура, нарэшце, вернецца з эміграцыі на радзіму і больш-менш трывала прапішацца не ў Польшчах ды Амерыках, а дзесьці тут, у якой-небудзь Оршы або Бярэсці? Магчыма. Бо беларускія барды ўжо раскручваюць даволі рэгулярна сваю "Аршанскую бітву", дый рокеры, нарэшце, правялі свой "...Кірмаш" у Бярэсці. І гэта была не проста вінегрэтная тусоўка, дзе нацыянальная свядомасць уяўлялася малапажаданым госцем (як было на гарадзенскім "Рок-кроку" або магілёўскім "Форуме"). "Берасцейскі рок-кірмаш" на нацыянальныя рок-сілы рабіў, бадай, галоўную стаўку. Афішы так і абвяшчалі: "Калі вам надакучыў сум ля тэлеэкрана, калі вы прагнеце жывой музыкі і жывых эмоцый, вас чакае сустрэча з прызнанымі майстрамі беларускай рок-сцэны: "Мроя" (Менск), "Талер" (Брэст), "Крама" (Менск), "Уліс" (Менск) і г.д. на "Берасцейскім рок-кірмашы-92".

Дарэчы, фестываль выявіў і далейшыя схільнасці некаторых "басавішчанскіх" адкрыццяў. Памятаеце, мы пісалі раней, што сярод зорак з'явіліся там і пара-тройка "белорусцев на три дня", якім абы ў Польшчу пагандляваць з'ездзіць. Дык вось: для берасцейскага гурта "Талер" усё ж менавіта "Басовішча" дало штуршок і да ўласнага нацыянальнага ўсведамлення, і да ўсведамлення іншых (хоць бы шляхам арганізацыі падобнага фэсту на радзіме, якім і прэтэндуе стаць "Берасцейскі рок-кірмаш" з падачы якраз "Талера"). А невыпадковасць беларускай мовы ў песнях "Талера" прасочваецца хаця б па скіраванасці музычнага мыслення ўдзельнікаў калектыву: адна з апошніх кампазіцый, якая прысвечана, дарэчы, гурту "Крама", мае і ў тэкстах, і ў музыцы яўныя матывы твораў гэдлайнера "Басовішча", што зроблена з тактам і вынаходлівасцю.

А "Вакзал", які яшчэ ў Польшчы дабіў публіку тыпова расейскім рокам "на беларускам языцэ", увогуле скаціўся да капіравання лубачных груп сто дваццаць пятай шарэнгі, дзе ёсць усё: і "стыльная форма аля лакейская ліўрэя", і "русская тоска" ў тэкстах, і барадаты "тоскуйщик-вокалист" у папоўскай расе, і процьма стандартных рыфаў з ускарасканнем на манітор, і, зразумела, "рідна матка та рідна мова".

Прызнацца, гурт падобнага кшталту "Стрымэкс" з Оршы ў сваёй эклектычнасці выглядаў больш цэльнай структурай, хоць гэтая цэльнасць была менавіта ў правінцыйнасці, якая не дазваляе высунуцца за межы пануючага кола большасці настолькі, што публіка нават назву не магла надоўга затрымаць у памяці, не тое што ягоную музыку. Варта было перапытаць кагосьці: што гэта за гурт быў напачатку другога дня пасля дыска-фанаграм "Музычнага падвала"? І вам адказвалі: "Ці то "Клімакс", ці то "Спермакс".

Не буду сцвярджаць, што гэтыя эратычныя асацыяцыі навеяны самой музыкай, але ў сэнсе новых музычных ідэй аршанцы аказаліся цалкам голымі.

Мабыць, наяўнасць такіх калектываў не псуе фестываль, а толькі адцяняе бляск і класнасць тых, каго ўжо лічаць "прызнанымі зоркамі", хоць і не прызнаюць за імі права на прыстойны ганарар, эквівалентную плату за працу (яна заўсёды выпадковая) і належную раскрутку на радыё, тэлебачанні, у сродках шоу-рэкламы.

Мяне зноў і зноў здзіўляе працаздольнасць той жа "Мроі". Яна імчыць, як сапраўдны мэтр: на "Рок-кірмаш-92" прыехала цалкам з новай праграмай. Дзеля чаго? Няўжо ўсе берасцейцы так цудоўна ведаюць "Стары храм", "Зніч", "БМ", "28-ю зорку"... Мо гэта мой асабісты песімізм, але я спыніў бы будаўніцтва дамоў, каб ведаў, што не заселены і папярэднія.

Аднак адкінем суб'ектывізм. Новай праграмай "Мроя" ўсё ж бліснула яскрава. Выдатна ўпісаўся ў калектыў і новы гітарыст Віктар Шот. Са смакам слухалі "мроеўскія" пасажы маладыя рок-фаны, не без добрай зайздрасці – некаторыя прафесіяналы.

Фірмова прагучаў на фэсце і "Уліс". Калектыў, які, здавалася, стварае элітарную музыку, завёў публіку так, што мог бы паспаборнічаць нават з гітавай "Крамай". І калі частка старых "улісаўскіх" фанаў усё яшчэ сумуюць па Андрэю Патрэю, дык новая армія заўзятараў з захапленнем паўтарае следам за Алегам Тамашовым ягоныя "танцы ў палёце".

А вось тут, дарэчы, сапраўднае дзікунства праявіла брэсцкая міліцыя. Ужо гадоў дзесяць не даводзілася бачыць у рок-залах цэлую армію "форменных надзирателей" з дубінкамі, якія час ад часу невядома паводле якіх прынцыпаў выцягвалі за шкірку то хлапчука, то дзяўчыну з натоўпу танцуючых і выводзілі ў сваё службовае памяшканне.

Вось крамаўскі вакаліст "рызыкнуў" і працягнуў руку да натоўпу фанаў ля сцэны. Не хвалюйцеся, яго не спіхнулі ў аркестравую яму. Затое колькі юнакоў адчулі шчасце ад поціску рукі зоркі. У іх натхнёны настрой, але па загаду старшыны некалькіх з гэтых "натхнёных" ледзь не поцягам выкідваюць з залы.

Гэтае відовішча было непрыемна ўсім, але найбольш шакіравала нашых сяброў з таго боку мяжы. Я знаходзіўся каля адной маладой пары, якая, танцуючы "крамаўскага" "Старога сабаку", размаўляла па-польску:

– Мо ў іх зноў танцаваць нельга?

– Ды наўрад, тады б і канцэрт забаранілі.

– Але ж, магчыма, путч толькі пачынаецца?

...У адказ – смяшок з трывогай.

Ваяўнічая міліцыя, абарваныя па горадзе афішы аб беларускім рок-фэсце, слота на двары і шэрасць берасцейскіх вуліц – вось той, на жаль, немалы комплекс стварэння саўковага іміджу фестывалю. І ўсё ж прадэманстраваў ён і імкненне ў Еўропу. А імкненне гэтае хаця б у тым, што вельмі і вельмі нямала калектываў здолелі ўзяць на сябе смеласць сыграць нестандартна, нязвыкла; сыграць так, каб захапіць і пераканаць; так, як яшчэ ніхто не іграў.

І як падобнымі аказаліся паміж сабой рознастылевыя і разнамоўныя "Крок" ды "Стрымэкс", гэтак жа неверагодна прывабнымі ў сваёй рознасці аказаліся аскетычны "Уліс" і кампанейская "Крама", неўтаймоўная "Мроя" і цнатлівае "Новае неба".

Не скажу, што ўсё гэта павінна аднолькава ўсім падабацца, але эфект навізны матэрыялу заўсёды суцішаў на іхніх выступах мітусню ля дзвярэй, узмацняў эмацыянальную аддачу. Калі б зайшла гаворка, скажам, пра мае асабістыя адносіны да гурта "Новае неба", я б пашкадаваў, што з-за яго панесла цяжкую страту беларуская бардаўская песня (адтуль сышла Кася Камоцкая), а над беларускім рокам завіс дамоклаў меч (ледзь не раскалолася "Мроя"). Але рэакцыя публікі "Новага неба" прымусіла адкінуць думку, што ў року Кася Камоцкая не дасягне ўжо былога поспеху (хоць не дзеля яго яна працуе). А мо і Кэйт Буш ішла гэткім жа шляхам: не ўсё ж гіты пралічваць, трэба і душы прастору даць.

Фэст закончыўся татальным уручэннем прызоў. Так, татальным, бо конкурсу тут не было, а проста адбылося свята. А каб замацаваць святочныя ўражанні, расшчодрыліся спонсары: розныя вытворчыя ды гандлёвыя фірмы, канцэрны, асацыяцыі, сумесныя прадпрыемствы.

Праўда, мо той жа Касі Камоцкай і прыдасца ў хатнім ужытку прас, дык, скажам, гурту "Крама" на восем чалавек яго цяжка будзе раздзяліць, а вось які-небудзь камплект струн або надта дэфіцытных цяпер барабанных кійкоў прынёс бы ці не больш радасці.

Зрэшты, не будзем пераглядваць чужыя рэчы. Для нас больш важна, што адбыўся фестываль, які...

а) падарыў сотням маладых берасцейцаў тры канцэрты дабротнага року;

б) выклікаў у горадзе (мо ўпершыню) гарачыя спрэчкі пра тое, ці ёсць розніца паміж "беларускім рокам" і "рокам з Беларусі";

в) рэальна паказаў прыгажосць беларускай мовы ў сучасных рытмах тутэйшым ахвярам чужога шоу-шквалу;

г) даў беларускім музыкам яшчэ адну не надта частую магчымасць паказацца ў свеце.

Калі першы блін і трошкі камяком, дык не вялікая бяда, калі гэты камяк сытны.

Вітаўт МАРТЫНЕНКА.
Фота У.ПАНАДЫ.

Бярэсце – Менск



«УЛІС»

